**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 02 (823) 14 студзеня 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by





**Падача абвестак па тэлефоне № 166**


**Айцец Сергій пад час Калядаў завітаў на гарадскую сцэну з дзіцячым вакальным гуртом.**
*Фота Ул. Скрабатуна.*

## Міністр працы і сацабароны Шчоткіна: Аб'ёмы сацыяльных выплат будуць залежаць ад працы эканомікі

**Аб'ёмы сацыяльных выплат залежаць ад вынікаў работы прамысловасці, заявіла міністр працы і сацыяльнай абароны Беларусі Марыяна Шчоткіна у інтэрв'ю, паказаным у праграме "Галоўны эфір" тэлеканала "Беларусь 1" 10 студзеня.**

"Калі казаць пра дапамогі і пенсіі, вядома, жаданне адно — толькі павышаць. Мы прынялі закон аб бюджэце сацабароны, заклалі, што на выплату пенсій спатрэбіцца 92 трлн. рублёў. На дапамогі — амаль 26 трлн. рублёў. Але пры гэтым, зыходзячы з прагназаванага фонду аплаты працы, мы таксама плануем, што адлічэнні ў фонд сацабароны за кошт страхавых узносаў будуць 114 трлн. рублёў плюс нейкія іншыя паступленні", — сказала член урада.

"Пытанне: ці будзе гэта рэальна? Вядома, гэта залежыць ад работы эканомікі, як будзе працаваць, перш за ўсё, наш прамысловы сектар. Таму, вядома, хочацца, каб было як мага больш", — заявіла Шчоткіна.

Паводле яе слоў, "сацыяльная абарона — яна заўсёды была і яна заўсёды будзе ў абавязковым парадку". "Больш персаніфікаванай, вядома. Таму што сярод нас заўсёды ёсць катэгорыі людзей, якія асабліва маюць патрэбу ў падтрымцы. Узяць тых жа самых інвалідаў I і II груп, людзей старэйшых за 70 гадоў. Натуральна, яны маюць патрэбу ў падтрымцы. І гэтая падтрымка будзе забяспечана адназначна", — паабяцала міністр.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*













ISSN 2077-8023







## Тры дарожна-транспартных здарэнні ў Віцебскай вобласці, адбыліся 7-10 студзеня, якія скончыліся гібеллю людзей. Адно з іх у Глыбоцкім раёне

7 студзеня ля вёскі Сяменчыкі Глыбоцкага раёна а 18:30 41-гадовы жыхар Полацка за рулём «Audi 100» здзейсніў наезд, на веласіпедыста, 39-гадовага жыхара вёскі Калінавае Мёрскага раёна, які ляжаў на праезнай частцы з веласіпедам. Веласіпедыст загінуў, а кіроўца з месца здарэння скрыўся, але падчас правядзення аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў быў затрыманы, паведамляе прэс-служба ДАІ.

***НІВ.***

## Віцебская вобласць

# Каткі адкрыліся, рынкі апусцелі

■ Станіслаў Раманчук.

**І раней штогод навагоднія святы ніколі не абыходзіліся без розных надзвычайных здарэнняў.**

Сёлета першыя дні 2016 года супалі з моцнымі маразамі, што адразу прывяло да павелічэння колькасці пажараў, розных аварый на аб'ектах ЖКГ і ўскладніла рух на слізкіх заснежаных дарогах. Толькі на тэрыторыі Віцебскай вобласці за першыя тры выхадныя года было зафіксавана 19 вогненных здарэнняў, на пажарах загінула трое, абмарозіліся чацвёра. У аграгарадку Юнькі, што паблізу Пастаў, на абочыне дарогі знайшлі труп 35-гадовага мужчыны, які ўвогуле замёрз. Ад выкарыстання піратэхнічных вырабаў падчас святаў траўмы атрымалі двое жыхароў вобласці і патрапілі ў бальніцы. Прыпазнілася моцна зіма са сваім прыходам, аднак парадавала аматараў актыўнага адпачынку. У Прыдзвінні ў гарадах і райцэнтрах былі адкрыты 46 каткоў з пунктамі пракату пад музычнае суправаджэнне, залілі 88 хакейных пляцовак. А ў абласным цэнтры сёлета запрацавалі яшчэ тры вялікія каткі з пунктамі гарачага харчавання. Праўда, вельмі засмуціла многіх і ўстрывожыла ўлады, што апусцелі рынкі, гандлёвыя цэнтры і павільёны. Яшчэ перад навагоднімі святамі большасць індывідуальных прадпрымальнікаў сталі забіраць адтуль свае тавары. Не сталі працягваць дагаворы арэнды большасць уладальнікаў гандлёвых павільёнаў з віцебскіх цэнтраў "Марко-сіці", "Еўропа", "Беларусь", "Кантынент", "Пасаж" і іншых. Пакупнікам няма чаго рабіць на рынках буйнейшых гарадоў: Оршы, Полацка і Наваполацка. На адным з буйнейшых на захадзе вобласці рынку ў Глыбокім стала немагчыма, як раней, набыць адзенне, абутак, бо прадпрымальнікі прыпынілі сваю дзейнасць.

## Браслаўскі раён

# Хто шукае, той знаходзіць

■ Кастусь Александровіч

**У наш час большасць моладзі імкнецца знайсці працу і жыць калі не ў беларускай сталіцы, то ў вялікіх гарадах.**

А вось сям'я маладых карэнных мінчан Юліі і Станіслава Цярэнцьевых здзівіла многіх, калі пазалетась рашылася на пераезд з мегаполіса ў Браслаўскі раён. Яны абмянялі сваю сталічную кватэру на звычайны сялянскі дом, размешчаны, праўда, на беразе аднаго са шматлікіх мясцовых маляўнічых азёр. Муж у правінцыі прадоўжыў займацца ў райцэнтры адвакацкай практыкай, яго палавінка акрамя рэдагавання тэкстаў у інтэрнэце, выхавання траіх дзетак вядзе таксама прысядзібную гаспадарку. Былая сталічная сям'я вырошчвае авечак, трусоў, трымае шмат птушкі, займалася пчалярствам. Але гэтага энергічным мінчанам аказалася мала, і яны на аукцыёне купілі меней чым за паўмільёна рублёў былую Пеліканаўскую базавую школу. Даваенная польская пабудова добра захавалася, хоць яна не выкарыстоўвалася нават 8 гадоў. Цяпер у памяшканнях пачаўся рамонт, у бліжэйшы час школа пераўтворыцца ў аграсядзібу, цэнтр сямейнага адпачынку. Новыя гаспадары школы ў былых класах запланавалі стварыць 10 пакояў для аздараўлення на ўлонні прыроды мам з маленькімі дзецьмі. Створаць тут і гульнявы пакой, і пляцоўкі для забаў на свежым паветры, будзе і асобная кухня. Сюды таксама будуць запрашаць найперш сем'і, у якіх дзеці маюць праблемы са здароўем, з аўтызмам і ДЦП. Гэтым праектам ужо зацікаваліся спецыялісты, архітэктары і дызайнеры, а таксама патэнцыйныя інвестары. Пасля завяршэння рамонтных работ новы сямейны цэнтр адпачынку можа пачаць сваю дзейнасць ужо напрыканцы вясны.

## Пастаўскі раён

# Са сталіцы з крыштальнай савой

■ Чэслаў Якубовіч.

**Вось ужо чатыры дзесяцігоддзі на постсавецкай прасторы вельмі папулярнай застаецца інтэлектуальная тэлегульня "Што? Дзе? Калі?".**

Яшчэ за савецкім часам захапіўся ёй, стаў пасылаць пытанні на перадачу У. Варашылава пастаўчанін Уладзімір Скоўпень. Ён тады быў маладым курсантам Рыжскага ваеннага камандна-інжынернага вучылішча, выступаў у складзе курсанцкай каманды клуба КВЗ, з дзяцінства хацеў многае ведаць і вельмі любіў чытаць. Цяпер падпалкоўнік запасу галоўны спецыяліст адміністрацыйна-гаспадарчай службы мясцовага " АСБ Беларусбанк", але па-ранейшаму застаўся верным сваім захапленням, супрацоўнічае не толькі з маскоўскім клубам эрудытаў, але і з беларускім аналагам тэлепраграмы на канале АНТ. На гульнявым стале ў тэлестудыі Мінска цікавыя пытанні ад пастаўчаніна вядучы Алесь Мухін агучваў ужо пяць разоў. Яго чарговае пытанне знаўцам патрапіла на фінальную гульню сезона 2015 года. Тэлегледачы перамаглі сваіх апанентаў на гэты раз з лікам 6:3, а галоўны прыз вялікую крыштальную саву і ў дадатак да яе 15 млн. рублёў за самае цікавае пытанне года вядучы А. Мухін, капітаны каманд і прадстаўнікі кампаній, якія абараняюць інтарэсы тэлегледачоў, вырашылі прысудзіць жыхару Пастаў. Цяперашняя прадвінутая моладзь не ведае, што нашы продкі пры выбары месца будаўніцтва дома ставілі на ноч збан. І калі туды забіраўся павучок, саткаў крыху павуціння, то і чалавеку там будзе камфортна жыць, што ведалі, калі будаваліся нашы дзяды і прадзеды.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 14.01.16 | | | | Пятніца 15.01.16 | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | |
| Тэмпература | -8 | -7 | -8 | -6 | -8 | -9 | -9 | -11 |
| Ціск | 735 | 737 | 739 | 740 | 743 | 745 | 747 | 748 |
| Вецер м/сек | 7 З | 6 З | 6 З | 6 З | 5 З | 5 З | 3 З | 4 Ю-З |
| Вільготнасць | 77 | 85 | 79 | 86 | 86 | 85 | 84 | 90 |

| | Субота 16.01.16 | | | | Нядзеля 17.01.16 | | | | Пан. 18.01. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -10 | -11 | -12 | -12 | -15 | -15 | -13 | -14 | -14 | -13 | -11 |
| Ціск | 750 | 750 | 749 | 749 | 748 | 747 | 744 | 743 | 744 | 744 | 744 |
| Вецер м/сек | 3 Ю-З | 2 Ю-З | 0 ШТЛ | 1 В | 2 С-В | 3 С | 3 С | 2 С-З | 2 З | 3 Ю-З | 3 Ю-З |
| Вільготнасць | 89 | 89 | 87 | 90 | 89 | 89 | 87 | 90 | 88 | 89 | 84 |

## Аб самым надзённым

# У БЕЛАРУСІ НАСПЕЛА ПЕНСІЙНАЯ РЭФОРМА, АЛЕ НЕ АДНО ТОЛЬКІ МЕХАНІЧНАЕ ПАВЫШЭННЕ ПЕНСІЙНАГА ЎЗРОСТУ

■ Аляксандр Цішкевіч.

**Як падаецца, найлепшым варыянтам перамен для беларусаў будзе пераход паступовы на новую накапляльную сістэму пенсій і вельмі паступовае павышэнне пенсійнага ўзросту.**

У першыя дні сцюдзёнага сёлета, сапраўды, студзеня беларусы даведаліся, што ў 2016 годзе наша краіна пойдзе па дарозе развіцця і прагрэсу і, магчыма, будуць нават разумныя перамены. Ва ўсялякім разе такую заяву зрабіў А. Лукашэнка ў сваім навагоднім тэлезвароце да беларускага народа. А вось яго бліжэйшы паплечнік, глава прэзідэнцкай Адміністрацыі А. Косінец шчыра папярэдзіў суайчыннікаў, што гэты год будзе няпростым і, нават, складаным. Найбольш жа размоў і афіцыйных заяў у Беларусі гучаць апошнім часам па пытанню павышэння пенсійнага ўзросту для беларускіх грамадзян.

Да такой непапулярнай меры нашу краіну падштурхвае аб'ектыўна даволі цяжкая сітуацыя ў айчыннай эканоміцы і дэмаграфічныя працэсы ў выглядзе падзення нараджальнасці і змяншэння колькасці працаздольнага насельніцтва. Як вядома, дзеючая пенсійная сістэма ў Беларусі арганізавана і працуе па прынцыпу салідарнасці розных пакаленняў. Тыя, хто зараз працуюць на заводах, фабрыках, палях і фермах, у арганізацыях і ўстановах сваімі адлічэннямі з заробкаў фінансуюць утрыманне цяперашніх ветэранаў працы, якія ў сваю чаргу падобным чынам раней працавалі і фактычна стварылі фонды для атрымання пенсій нашым дзядулям з бабулямі.

Маладзейшыя пакаленні ў сваю чаргу могуць разлічваць, што іх у непазбежнай для кожнага з нас старасці будуць утрымліваць са сродкаў, якія зарабяць будучыя работнікі, якія прыйдуць на замену. Толькі ў нас, у адрозненне ад замежных пераважна прыватных пенсійных фондаў, грошы перадаюцца ў агульны "кацёл" пад пільным кантролем дзяржавы. Калі ў казне хапае свабодных сродкаў, то пенсіі беларусам могуць рэгулярна індэксавацца і павышацца, што раней часцей рабілася. Летась жа, нагадаем, толькі перад самымі прэзідэнцкімі выбарамі адшукалі магчымасць крыху павялічыць працоўныя пенсіі ў сярэднім на 5%.

Многія людзі старэйшага пакалення аднак думаюць, што пенсію ім плоціць і павышае яе памеры кіраўнік дзяржавы, паколькі такія меры афармляюцца ягонымі ўказамі. На самой справе, многія ў Беларусі нават пры адным з самых нізкіх у свеце узростаў выхаду на пенсію (55 гадоў у жанчын і 60 гадоў для мужчын) не дажываюць да выхаду на заслужаны адпачынак. Да прыкладу, у 2014 годзе ў нашай краіне памерлі 122 тысячы чалавек. З іх, удумайцеся, 19520 работнікаў (16%) былі ў працаздольным узросце, фактычна кожны пяты не дажыў да сваёй пенсіі. Дык ці варта імгненна альбо паступова павышаць пенсійны ўзрост адразу на некалькі гадоў?

З іншага боку, праўда, у нас расце штогод і колькасць пенсіянераў. Так, у пачатку новага стагоддзя ў Беларусі налічвалася роўна 2,5 млн. пенсіянераў, з якіх 469 тысяч працягвалі працоўную дзейнасць. Напрыканцы 2014 года колькасць атрымальнікаў пенсій вырасла да 2 млн. 560 тысяч чалавек на 4,5 мільёны працаздольнага насельніцтва. Аднак, сярод пажылых ужо 635 тысяч, альбо кожны чацвёрты атрымоўвалі пенсіі і працягвалі працаваць, каб дапамагаць часта дзецям і ўнукам. Вось толькі кожны чацвёрты, чвэрць беларускіх пенсіянераў, працуючы самі аплочвалі свае пенсіі.

Памылковым будзе яшчэ адно меркаванне, што менавіта злосныя дзядзькі з таго ж МВФ патрабуюць ад урада Беларусі павысіць пенсійны ўзрост. На самой справе заходнія спецыялісты рэкамендуюць нам пачынаць пенсійную рэформу. Таксама і банк ЕўрАзЭС ужо дабіўся ад нас крыху павысіць кошт тарыфаў ЖКГ, але стабілізацыйны крэдыт пакуль не выдзеліў Беларусі. Як бы ні разгортваліся далейшыя падзеі, але праўда ў тым, што ў беларускім урадзе цяпер прапрацоўваюцца розныя варыянты павышэння пенсійнага ўзросту.

Прэзідэнт Беларусі ўжо выказваўся пра гэту меру, але заявіў, што па гэтай праблеме ён "параіцца з народам". Пакуль жа ў суседняй Расіі адклалі вырашэнне гэтага пытання да 2018 года, калі У. Пуцін не перавыбераца на наступны тэрмін пры адпаведным жаданні і добрым стане здароўя. У нас прывыклі многае рабіць з аглядкай на ўсходняга суседа, жывём цяпер па адным маскоўскім часе. Магчыма, і з павышэннем пенсійнага ўзросту дзеянні будуць сінхронныя. З іншага боку, па разліках, да 2030 года беларускія пенсіянеры могуць дасягнуць па колькасці амаль палову насельніцтва Беларусі і паўстае пытанне, ці зможа дзеючая размеркавальная пенсійная сістэма ўсіх іх дастойна ўтрымліваць?

Як падаецца, найлепшым варыянтам перамен для беларусаў будзе пераход паступовы на новую накапляльную сістэму пенсій і вельмі паступовае павышэнне пенсійнага ўзросту. Рабіць гэта неабходна будзе таксама адначасова з правядзеннем наспеўшых эканамічных рэформ, лібералізацыяй эканомікі, шырокім прыцягненнем замежных інвестыцый. За беларускай дзяржавай павінна застацца задача захаваць дасягнуты базавы ўзровень атрымоўваемых пенсій. Пакуль жа не будзем забывацца, што нашы мужчыны жывуць у сярэднім па 67 гадоў, а век беларускіх жанчын на 10 гадоў больш. Не будзе гуманным рэзка павышаць працоўную нагрузку для цяперашняга старэйшага пакалення, перажыўшага Чарнобыль, перабудову, цяжкасці пасля распаду СССР, але і далей адкладаць наспеўшую пенсійную рэформу таксама нельга…

## Дзень за днём

**По прагнозах, сёлета на рынках краіны могуць закрыцца і спыніць сваю дзейнасць да 120 тысяч прадпрымальнікаў. Урад Беларусі павысіў мінімальную зарплату да 2,3 млн. рублёў, аднак летась узровень беспрацоўя вырас у 2 разы. А. Лукашэнка паабяцаў суайчыннікам у 2016 годзе "разумныя перамены". МЗС Беларусі прапанаваў спрасціць візавы рэжым з дзяржавамі ЕС. Да 20 гадоў паступова павялічаць беларусам мінімальны стаж працы для атрымання пенсіі. Беларусь летась увайшла ў чацвёрку найгоршых краін свету па абвалу валют. Да 1 жніўня сфарміруюць спіс беларусаў-дармаедаў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Іран.** Пасля нападзення на пасольства Саудаўскай Аравіі ў Тэгеране і разрыва дыпадносін паміж краінамі сталі расці сусветныя цэны на нафту і напружанасць у рэгіёне.

**ЗША.** Упершыню з 1975 года краіна зноў пачала экспартныя пастаўкі нафты, першы танкер даставіў яе ў Італію, у амерыканцаў зараз велізарныя запасы энерганосьбітаў.

**Кітай.** Міністэрства абароны пацвердзіла пачатак будаўніцтва другога авіяносца грузападымальнасцю 50 тысяч тон для транспарціроўкі самалётаў-знішчальнікаў J15.

**Расія.** У прамым эфіры на тэлеканале "Россия.HD" польскі палітолаг Я. Караібы заявіў, што менавіта Турцыя паставіла на месца Расію, а рускім трэба памірыцца з туркамі.

**Украіна.** Рускія вядуць вайну ў Сірыі, як заявіў расійскі палітолаг Г. Паўлоўскі, без ідэі, без канчатковай мэты і без шанцаў перамагчы, страцілі пачуццё рэальнасці ў свеце.

**Сірыя.** Спецпрадстаўнік Нацыянальнай кааліцыі сіл апазіцыі Н. Гадбан заклікаў Расію прыпыніць спецаперацыю ў краіне для пачатку перамоў з урадам па мірнаму працэсу.

**Польшча.** Сенат Кракаўскага ўніверсітэта, які скончыў прэзідэнт А. Дуда, вышаў з ініцыятывай пазбавіць яго тытула доктара права за парушэнне норм Канстытуцыі.

**Турцыя.** Прэм'ер-міністр Ахмет Давутаглы заявіў, што не аддаваў загад збіваць расійскі самалёт-бамбардзіроўшчык Су-24, але туркі будуць рашуча абараняць свае граніцы.

**Саудаўская Аравія.** Па прыгавору суда каралеўства пакаралі смерцю праз адсячэнне галавы яшчэ 47 чалавек, абвінавачаных у міжнародным тэрарызме.

**КНДР.** Ноччу пры загадкавых абставінах у авіякатастрофе загінуў 73-гадовы член палітбюро ППК Кім Ян Гон, які адказваў за сувязі з суседняй дэмакратычнай Карэяй.

**Польшча.** Польскі Сейм прыняў новы закон аб адукацыі, цяпер юныя палякі будуць пачынаць вучыцца ў школе з 7 гадоў, 6-гадовыя дзеці абавязаны наведваць дзіцячыя сады.

**Літва.** Асацыяцыя гатэляў і рэстаранаў краіны знізіла цэны на адпачынак на прыморскіх курортах, бо рэзка зменшылася колькасць прыезджых турыстаў са збяднеўшай Расіі.

**Расія.** Падчас трэніроўкі ў ціры віцэ-прэм'ер урада РФ Д. Рагозін выпадкова выстраліў сабе ў нагу, раптоўна памёр генерал, які камандаваў спецаперацыяй па анексіі Крыма.

**Украіна.** У Кіеве прайшла прэм'ера дакументальнага фільма Валерыя Балаяна "Хуізмістэрпуцін" пра тое, як чыноўнікі з бандытамі дарваліся да ўлады ў Расіі.

**Расія.** У адной з кватэр райцэнтра Алексін Тульскай вобласці знайшлі забітымі 30-гадовую ўкраінку з Данецка і яе дзяцей, сына 7 год і гадавалую дзяўчынку.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках імнфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Вядомы эканаміст, прафесар Б. Жэліба заявіў, што беларускі крызіс ідзе ад Пуціна, ад ягонай палітыкі, якая прывяла да санкцый, далей як бы яшчэ горш не стала.

**Ждановічы.** Большасць прадпрымальнікаў, якія гандлявалі тут нехарчовымі таварамі, прыпынілі працу, апусцелі і іншыя гандлёвыя цэнтры, і рынкі сталіцы Беларусі.

**Гомель.** На тэрыторыі вобласці да Новага года працавалі звыш 27 тысяч індывідуальных прадпрымальнікаў, пасля святаў многія з іх спынілі сваю дзейнасць і пакінулі рынкі.

**Ялізава.** Намеснік міністра архітэктуры і будаўніцтва Беларусі А. Сідараў паабяцаў падтрымку дзяржавы мясцоваму шклозаводу ў рамках працэдуры банкротства.

**Мінск.** Былы прэм'ер-міністр М. Чыгір папярэдзіў, што беларусам і сёлета трэба чакаць высокую інфляцыю і падзенне рэальных даходаў, без крэдытаў МВФ і РФ нам не выжыць.

**Ліда.** Урад Беларусі зноў прадаставіў шматлікія льготы шклозаводу-банкруту "Нёман", прадпрыемства ўжо 10 гадоў не можа выбрацца з вялізных страт і даўгоў.

**Горкі.** Ноччу супрацоўнікі МНС і жывёлаводы племзавода "Леніна" паспелі эвакуіраваць з палаючай фермы 116 цялят, агонь знішчыў 200 квадратных метраў даху, частку столі.

**Буда-Кашалёва.** Пры пажары ноччу ў вёсцы Патапаўка загінулі 37-гадовая маці з сынам 3-х гадоў, а таксама 9-гадовая ўнучка гаспадара дома, па краіне за суткі згарэлі 9 чалавек.

**Касцюковічы.** Супрацоўнікі дзяржінспекцыі аховы прыроды затрымалі ля пасёлка Красны браканьера, які на паляванні на зайца незаконна застрэліў казулю і раніў сабаку лайку.

**Мядзель.** Мясцовы аддзел Следчага камітэта пачаў пошукі 21-гадовага жыхара райцэнтра Дзмітрыя Варанца, які яшчэ летась у студзені паехаў на заробкі ў Маскву і там прапаў.

**Гродна.** Позна вечарам пасля сканчэння пакупак двое мужчын скралі з тамбура гіпермаркета "Алмі" прывязанага пародзістага сабаку пароды джэк-расэлтэр'ер.

**Пухавічы.** У мясцовым туркомплексе "Дукорскі маёнтак" пабудавалі першы ў Беларусі перакулены дом пад ухілам, дзе ўся мэбля знаходзіцца пад дахам уверх нагамі.

**Бабруйск.** Год пачаўся з моцных маразоў, у адну з начэй у горадзе было найхаладней у краіне, мінус 27 градусаў, абсалютны рэкорд холаду таго дня быў у Віцебску ў 1941 годзе.

**Смалявічы.** Міліцыя затрымала 26-гадовага жыхара вёскі Задомля, які на падпітку падчас спрэчкі спрабаваў зажыва спаліць вучня 9-га класа, мярзотніку пагражае да 8 год турмы.

**Гомель.** Пасярод ночы ў аграгарадку Урыцкае паблізу абласнога цэнтра злачынцы разбілі шкло і абакралі адразу чатыры прыпаркаваныя ля дамоў легкавыя аўтамабілі.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

## У Беларусі павышаны цэны на газ, электрычнасць і цеплавую энергію



■ Андрэй Серада, БелаПАН

**У Беларусі павышаны цэны на газ, электрычную і цеплавую энергію. Адпаведная пастанова ўрада, якая набыла моц 1 студзеня 2015 года, апублікавана на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.**

Падаражанне, звязанае з уключэннем у тарыфы ПДК, склала 20%.

Так, прыродны газ (пры наяўнасці лічыльнікаў у ацяпляльны сезон) за 1 кубаметр падаражэў з 646,9 да 776,3 рубля, у летні перыяд (пры наяўнасці лічыльнікаў) з 2.368,5 да 2.842,2 рубля за кубаметр, пры адсутнасці індывідуальных ацяпляльных прыбораў, незалежна ад сезона – з 2.368,5 да 2.842,2 рубля, без лічыльнікаў, пры наяўнасці газавай пліты і цэнтралізаванага водазабеспячэння – з 18.800 рублёў з чалавека да 22.600.

Цана прыроднага газу пры наяўнасці газавай пліты і газавага воданагравальніка пры адсутнасці цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння павышана з 54.300 рублёў з чалавека да 65.100, пры наяўнасці газавай пліты і адсутнасці цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння і газавага воданагравальніка – з 30.700 да 36.800 рублёў з чалавека.

Звадкаваны газ (з устаноўленымі прыборамі індывідуальнага ўліку расходу газу пры наяўнасці індывідуальных газавых ацяпляльных прыбораў у ацяпляльны перыяд) падаражэў з 10.025,7 да 12 030,8 рубля за кубаметр, з устаноўленымі прыборамі індывідуальнага ўліку расходу газу пры наяўнасці індывідуальных газавых ацяпляльных прыбораў у летні перыяд – з 6.315,1 да 7.578,1 рубля, без індывідуальных газавых ацяпляльных прыбораў – з 6.315,1 да 7.578,1 рубля. Звадкаваны газ без прыбораў індывідуальнага ўліку расходу газу пры наяўнасці газавай пліты і цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння або індывідуальнага воданагравальніка падаражэў з 18.800 да 22.600 рублёў з чалавека, пры наяўнасці газавай пліты і газавага воданагравальніка пры адсутнасці цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння – з 53.500 да 64.200 рублёў з чалавека. Пры наяўнасці газавай пліты, пры адсутнасці цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння і газавага воданагравальніка звадкаваны газ падаражэў за 1 кубаметр з 25.100 да 30.100 рублёў.

Кошт электраэнергіі ў жылых дамах (кватэрах) з электрычнымі плітамі па аднаставачным тарыфе за 1 кВт•гадз павышаны з 841,5 да 1.009,8 рубля, па дыферэнцыраваным тарыфе ў перыяд мінімальных нагрузак з 22.00 да 17.00 і ў перыяд максімальных нагрузак з 17.00 да 22.00 – з 589 і 1.683 да 706,8 і 2.019,6 рубля адпаведна; па аднаставачным тарыфе – з 990 да 1.188 рублёў; па дыферэнцыраваным тарыфе ў перыяд мінімальных нагрузак з 22.00 да 17.00 і ў перыяд максімальных нагрузак з 17.00 да 22.00 за 1 кВт•гадз з 693 і 1.980 да 831,6 і 2.376 рублёў адпаведна.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Бюджэт вобласці на гэты год, як паведаміў начальнік галоўнага фінансавага ўпраўлення аблвыканкама Б. Качаноўскі, прадугледжвае жорсткую эканомію сродкаў.

**Орша.** Для далейшай мадэрнізацыі мясцовага льнокамбіната ўрад Беларусі прыцягнуў льготны крэдыт Экспартна-імпартнага банка Кітая ў суме 52 млн. долараў на 15 гадоў.

**Верхнядзвінск.** Пробашч касцёла святой Тройцы з вёскі Росіца ксёндз Чэслаў Курэчка атрымаў прэмію прэзідэнта "За духоўнае адраджэнне" за 2015 год.

**Віцебск.** Ураджэнец Глыбоцкага раёна, 42-гадовы Генадзь Сабыніч узначаліў буйны прыгарадны раён, дагэтуль ён працаваў адным з намеснікаў аблсельгасхарча.

**Друя.** Падчас выязнога прыёму член Савета Рэспублікі, гендырэктар "Віцебскаблгаза" Пётр Шэршань паабяцаў дапамогу ў аднаўленні прыгожай мясцовай царквы 18 стагоддзя.

**Віцебск.** У гандлёвым цэнтры "Еўропа" не прадоўжылі дагаворы арэнды звыш 50 прадпрымальнікаў, закрыліся больш паловы павільёнаў і да 70-75% месц на рынках.

**Орша.** На трасе М1 з заглохнуўшага ля вёскі Юрцава аўтобуса Масква-Мінск пад раніцу выратавальнікі МНС пры 18 градусах марозу эвакуіравалі ў цяпло 45 пасажыраў.

**Глыбокае.** У фармаце канферэнцыі ў райцэнтры прайшлі першыя каляднья чытанні па тэме "Царква, сям'я і школьныя звычкі" з удзелам квартэта духоўнай песні "Натхненне".

**Докшыцы.** На базе Бярэзінскага біясфернага запаведніка прайшоў рэспубліканскі семінар "Сучасныя падыходы ў экалагічнай адукацыі" і круглы стол праекта "Зялёныя школы".

**Віцебск.** У абласным цэнтры адкрылася 11-я па ліку ў горадзе новая дыягнастычная станцыя №231 транспартных сродкаў з дзвюма сучаснымі лініямі агляду аўтамабіляў.

**Лепель.** Адзін з мікрараёнаў райцэнтра ўпрыгожыў новы сучасны магазін "Мясная лаўка", які адкрыў мясцовы камбікормавы завод, філіял ЗАТ "Віцебскаграпрадукт".

**Мёры.** Многія жыхары горада і раёна з задавальненнем пабывалі на цікавай выставе ў мясцовым гісторыка-этнаграфічным музеі "Новы год мінулай эпохі".

**Браслаў.** Упершыню на навагоднія і калядныя святы на папулярнай аграсядзібе "Хутар Едзішкі" адпачылі адразу 9 сем'яў, у асноўным з буйных гарадоў Расіі.

**Докшыцы.** Кіраўніцтва раёна, Крулеўшчынскага сельсавета і ААТ "Докшыцкі" цёпла павіншавалі са 100-гадовым юбілеем ветэрана вайны і працы Марыю Фёдараўну Асон.

**Новалукомль.** Пасля продажу пакета акцый мясцовага "Універсалторга" гандлёвай сетцы "Веста" гараджан парадавала павышэнне асартыменту і абнаўленне магазінаў горада.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па матэрыялах інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

## У апошнія выхадныя чэрвеня ў Глыбокім адзначалі

# “Дзень каня”

**Можна, натуральна, напісаць не адзін крытычны і разгромны матэрыял аб жыцці беларусаў пад “уладай панскай Польшчы”. Усё так: і паланізацыя адбывалася, і беларускія дзеячы сядзелі ў турмах, і згортвалася амаль да нуля беларускае школьніцтва... Можна, аднак, і “польскія часы” параўнаць з сённяшнімі “беларускімі”, і яшчэ невядома, на чыю карысць будзе параўнанне. Вёску нашу сёння загубілі! А за беларускую мову і цяпер судзяць? Не верыце? Спраўдзіце! Станьце на Цэнтральным пляцы Глыбокага з плакатам – “Хачу навучаць сваіх дзяцей у беларускай школе!” Пасадзяць сутак на 15! Не, хутчэй аштрафуюць на некалькі базавых велічыняў, бо ў бюджэце краіны “напражонка” з грашамі...**

**Аднак, і тады, і цяпер, большасць людзей жыла і жыве сваімі іншымі інтарэсамі. Удзельнічала і ўдзельнічае ў грамадскім жыцці горада. Як тады, так і цяпер у горада былі свае святы. Мы ўжо згадвалі, што за “польскім часам” у Глыбокім адзначалі “Свята Мора”, і ў кантэксце з гэтым была ўзведзеная прыстань на возеры Беразвецкім. А быў яшчэ і “Дзень Каня”!**

■ **Уладзімір Скрабатун,**

Наша “абласная”, г.зн ваяводская газета **“Kurjer Wileński”**, у №146 ад 28 траўня 1936 года паведамляла:

“Дзень Каня”. 24-га дня бягучага месяца ў Глыбокім адбылося пасяджэнне Павятовага Камітэту арганізацыі “Дня Каня”, які мае адбыцца 28 і 29 чэрвеня. Праграма “Дня Каня” будзе змяшчаць сялянскія конкурсы, конкурсы лёгкіх і цяжкіх запрэжак, сялянскія спаборніцтвы, а таксама спаборніцтвы і конскія паказы кавалерыі КАП[1]. “Дзень Каня” будзе доўжыцца 2 дні.

1. Корпус Аховы Памежжа.

У адным з ліпеньскіх нумароў **“Kurjera” – №179, за 2 ліпеня 1936 года** – паведамляецца, што “Дзень Каня” у Глыбокім, а дакладней, у Беразвеччы, адбыўся:

**Пацелі коні ў “Дзень Каня”**

ПАТ[1] паведамляе з Глыбокага: У днях 28 і 29 мінулага месяца ў Беразвеччы каля Глыбокага адбыўся “Дзень Каня”. У праграму ўваходзілі конкурсныя паказы коняў, упраўленне і верхавая язда, парад экіпажаў, конкурс кавання каня, а таксама сялянскі паляўнічы бег.

Заслугоўваюць адзначэння спартовыя паказы стралкоў палка КАП, а таксама конныя спаборніцтвы кавалерыі КАП. Удзельнікі, якія адзначыліся, атрымалі ўзнагароды.

1. Польская Тэлеграфічная Агенцыя.

Аўтар гэтых радкоў не ставіць пытанне: ці трэба ў Глыбокім адрадзіць свята “Дзень Каня”. Натуральна, сёння мы жывём не ў пасляваенныя 40-50-я гг, калі калгасныя палеткі апрацоўвалі коннымі плугамі, касілкамі, звозілі ўраджай на конных вазах, ды й кавалерыя даўно канула ў нябыт. А сёння, нават прыватнікі, часам маюць свой уласны трактар, ці культыватар!

Але, ці развіталіся мы цяпер з канём назаўсёды? Не! Конь так ці інакш прысутнічае і сёння на гарадскіх святах. Бацькі з ахвотай катаюць сваіх дзяцей на конных вазах, альбо іх дзеці могуць пабываць і ў якасці вершніка. А ў Барку ёсць конна-спартыўная база, з усімі патрэбнымі для гэтага атрыбутамі.

У вёсцы Скрабатуны, што на беразе возера Вялікі Супонец, жыве сям’я спадарства Серафімовічаў, якая пераехала сюды з Мінска. З-за коняў! Серафімовічстарэйшыя – азёразнаўца, даследаваў шматлікія беларускія азёры, сын Якаў – фермер, займаецца конегадоўляй, мае табун коняў, праводзіць цікавыя конныя вандроўкі ў в. Бычкі, радзіму Васіля Быкава, а таксама ў Цэнтр Еўропы (раён возера Шо). І адбою ад экскурсантаў няма!

Дзіўна, але і ў сённяшняй Польшчы, усё яшчэ праводзіцца “Дзень Каня”, альбо “Свята Каня”. Не забываем аб тым, што конь не толькі араты, спартовец, але й – ваяр. Сённяшнія рыцарскія турніры на папулярных святах старажытнай культуры ў Польшчы, а таксама, часам, і на Беларусі, таксама не абыходзяцца без каня!

Так! Аўтар гэтых радкоў не ставіць пытання – ці варта “Дзень Каня” адраджаць сёння ў Глыбокім. Але, калі нашым уладам патрэбная новая ідэя – бярыце! Можаце пакласці пад сукно – да лепшых часоў, мо калі й прыдасца! А раптам гэтая ідэя спадабаецца і будзе

— „DZIEŃ KONIA“. W dniu 24 b. m. w Głębokiem odbyło się posiedzenie Powiatowego Komitetu organizacji „Dnia Konia“, który się odbędzie 28 i 29 czerwca. Program „Dnia Konia“ będzie obejmował konkursy włościańskie, konkursy zaprzęgów lekkich i ciężarowych, gonitwy chłopskie oraz zawody i pokazy konne kawalerji KOP. „Dzień Konia“ trwać będzie 2 dni.

**Вынятка з газеты “Kurjer Wileński” за 1936 год, №146, якая паведамляе, што 28 і 29 чэрвеня ў Глыбокім адбудзецца “Дзень Каня”. Унізе – нататка, што згаданы “Дзень Каня” ў Глыбокім ужо адбыўся.**

**Pociły się konie w „Dniu Konia“**

Pat donosi z Głębokiego: W dniu 28 i 29 ub. mies. w Berezweczu koło Głębokiego odbył się „Dzień Konia“. Na program złożyły się pokazy konkursowe koni, powożenia i ujeżdżania konia, defilada pojazdów, konkurs kucia konia oraz włościański bieg myśliwski.

Na podkreślenie zasługują pokazy gimnastyczne strzelców pułku KOP oraz zawody konne kawalerji KOP. Wyróżnieni otrzymali nagrody.







**“Дзень Каня” і сёння адзначаецца ў Польшчы. Падборка з 2-х афіш.**



**Конныя вандроўкі Якава Серафімовіча (на пярэднім плане).**

■ **Уладзімір Скрабатун**

# Шакаладная экскурсія ў Глыбокім?

На колькі складаная тэхналогія вырабу шакаладу? Не буду выдаваць сябе ў якасці эксперта, г.зн., тэхнолага кандытарскай вытворчасці, аднак, калі глыбоцкія манахі-кармеліты некалі вельмі добра асвоілі тэхналогію яго вырабу і выдавалі яго ў сваёй аптэцы ў якасці лекаў, то, падаецца, тэхналогія – даволі простая!

Напярэдадні Новага года розныя госці, якія наведваліся да маёй дачкі і ўнучкі, пакінулі шмат гасцінцаў. Але аўтар звярнуў сваю ўвагу толькі на – “дужую” шакаладку – як бы так сказалі б палякі. Дэсертная шакаладка, а ў ёй начынне – вішня і журавіны!

Я ўжо не буду казаць аб тым, што вішні і журавіны растуць і ў нас, нават Вішнёвы фэст у Глыбокім праводзіцца!

Размова тут не будзе ісці аб тым, што пад час Вішнёвага фэсту трэба навочна выраблядь сувенірны шакалад з вішнямі і тут жа яго прадаваць глыбачанам і гасцям гораду. На гэтую тэму можна глянуць яшчэ шырэй!

Цяпер прыйшоў час, калі трэба пераглядаць усе папулярныя некалі трэнды. Чаго людзі з усёй Беларусі ехалі ў Мосар? У выхадныя дні – аж да 10 аўтобусаў. 10 аўтобусаў – па 40 чалавек – 400, субота-нядзеля, ужо – 800, за месяц – 3 200... І толькі за выхадныя дні! Правільна! Таму што ў Мосары быў легендарны ксёндз Ёзас Булька! А што там было побач – дэндрасад, святая крыніца, вальеры са страусамі, Ноеў каўчэг – усяго толькі дадатак да самога легендарнага ксяндза. Ксёндз Ёзас адыйшоў у лепшы свет! І ўсё! Каго б не паставілі сёння там пробашчам, мала што зменіцца, не хлынуць ізноў турысты! Трэба шукаць, альбо стварэць новыя папулярныя трэнды!

Тэма шакаладу можа стаць адной з тэмаў экскурсіі па глыбоцкаму сабору Нараджэння Маці Божай! Чаму? Манахі-кармеліты, якія жылі тут раней, займаліся навуковай дзейнасцю, у тым ліку і медыцынай. Вырошчвалі зёлкі ў кляштарным садзе (цяпер стадыён). Мелі сваю аптэку, лячылі вакольнае насельніцтва. І па пераказаннях таго часу – шакалад быў лекамі[1]! Яго выраблялі тут!

Ідэя – простая! Ставім гандлёвы намёт (палатку) – месца хапае, напрыклад, справа ад храма. На шыльдзе напісана – “Зельня” (адзін з беларускіх варыянтаў слова “аптэка”). Прыязджае экскурсія, найперш – школьнікі... Экскурсанты падыходзяць да намёта. Экскурсавод ва “ўніформе” манаха”[2] апавядае гісторыю старажытнай глыбоцкай аптэкі. Кажа, што раней і шакалад лічыўся лекамі. Тут, навочна, перад экскурсантамі ён заліваe ў формы шакалад! Каму з чым: адным з арэхамі, другім з вішнямі і журавінамі, трэцім з суніцамі... Ставіць зверху пячатку, каму якую: герб Корсака, герб кармелітаў, а каму і герб Глыбокага, ці Пагоню, абласны герб. Купяць? Не сумнявайцеся! Усе 40 чалавек! Асабліва, дзеці! Тут жа, пад парасонамі, можна папіць манастырскага чаю, манастырскага квасу, купіць газіроўкі ў дарогу з нашымі глыбоцкімі сіропамі (чарніцы, ажыны)... У дадатак, экскурсанты набудуць і магнціікі, іншыя сувеніры, кнігі аб гісторыі Глыбокага. (Іконкі і свечкі, заўважу, няхай і надалей прадаюцца ў самім храме.)

Дарэчы, усе інгрэдыенты для вырабу шакаладу мае Глыбоцкі МКК.

1. А можа гэта і праўда? Выдаюць жа і цяпер вайсковым лётчыкам шакалад. Здымае стомленасць!

2. Гэта можа быць і рэальная манашка з Беразвецкага манастыра з добрым веданнем беларускай мовы (як экскурсавод).




**Шакаладка польскай вытворчасці: вішня і журавіны.**

# Творчасць Святланы Алексіевіч не пакінула раўнадушнымі жыхароў Шаркоўшчыны



Іван Мядзелец з Германавіч дзеліцца ўражаннямі ад апошняй кнігі Святланы Алексіевіч. *Фота Змітра Лупача.*

**Круглы стол, прысвечаны творчасці нобелеўскай лаўрэаткі, прайшоў у Шаркоўшчыне на праваслаўныя Каляды.**

**■ Зміцер Лупач**

Ён быў арганізаваны шаркоўшчынскімі і глыбоцкімі грамадскімі актывістамі.

Сустрэча пачалася са спеву калядак, які арганізаваў жыхар Жукоўшчыны Язэп Квач. Сам спадар Язэп родам з вёскі Квачы Глыбоцкага раёна. Ён цікавіцца беларусчынай, збірае народныя песні, прыказкі, адметныя словы віцебскай гаворкі, робіць тэатральныя пастаноўкі.

Пасля гэтага Ада Райчонак, якая ўзначальвае культурна-асветніцкі Цэнтр імя Язэпа Драздовіча, адкрыла мерапрыемства. Яна распавяла, што ўручэнне Нобеля па літаратуры Святлане Алексіевіч у беларускім грамадстве было сустрэта неадназначна. Прычым не толькі сярод дзяржаўных чыноўнікаў, але і сярод беларускай грамадскасці. Але беларусы павінны гэтым ганарыцца, бо мы першыя з постсавецкіх краін, хто атрымаў такую высокую ўзнагароду.

Далей слова ўзяла Ларыса Крук, якая распавяла прысутным пра жыццёвы і творчы шлях пісьменніцы. Потым кожны з удзельнікаў распавёў пра свае пачуцці ад твораў Святланы Алексіевіч. Прысутныя паглядзелі відэаматэрыялы з інтэрв'ю нобелеўскай лаўрэаткі, якія яна давала ў розны час сродкам масавай інфармацыі.

Людміла Ардынская і Ларыса Шпак прачыталі свае вершы, якія напісалі пад уражаннем ад прачытаных кніг пісьменніцы. Усе ўдзельнікі адзначылі ўменне пісьменніцы выслухаць і зразумець простага чалавека, які стаў ахвярай вялікіх сацыяльных эксперыментаў XX стагоддзя.

Напрыканцы сустрэчы прысутныя абмяняліся кнігамі Святланы Алексіевіч, бо зараз іх цяжка знайсці ў бібліятэках і кнігарнях. Ада Райчонак выказала надзею, што неўзабаве яе кнігі будуць перавыдадзены.

# Глыбоцкага міліцыянта асудзілі на тры гады

**Супрацоўнік аддзела барацьбы з эканамічнымі злачынствамі спрабаваў выратаваць ад пакарання свайго сваяка, які займаўся незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасцю.**

Як аказалася, сваяк аперупаўнаважанага каля двух гадоў скупляў жывёлу ў жыхароў суседняга раёна і тамтэйшых гаспадарак. Разлічваўся са здатчыкамі наяўнымі сродкамі, а потым вывозіў мяса ў Расійскую Федэрацыю.

Пракурор Глыбоцкага раёна Ігар Валынец распавядае падрабязнасці:

– Трывогу забілі работнікі адной з ферм пасля таго, як там па ініцыятыве «нарыхтоўшчыка» арганізавалі забой жывёлы. Яны і звярнуліся ў міліцыю. На месца здарэння для праверкі і расследавання інцыдэнту выехаў цяперашні падсудны. Але замест таго, каб разбірацца па сутнасці злачынства, ён узяўся кансультаваць вінаватых – каму і што казаць, каб пазбегнуць адказнасці. Дапамог сфальсіфікаваць дакументы на незаконны забой жывёл.

Супрацоўніка міліцыі абвінавацілі ў злоўжываннях службовымі паўнамоцтвамі. Суд прысудзіў яго да 3 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму, яму забаронена ажыццяўленне функцый прадстаўніка ўлады тэрмінам на 5 гадоў, а таксама ён аштрафаваны на 36 мільёнаў рублёў.

Былы аперупаўнаважаны на судзе віну не прызнаў. З рашэннем суддзі ён не пагадзіўся і напісаў касацыйную скаргу. Пракурор раёна таксама прынёс пратэст на прысуд – ён, наадварот, палічыў пакаранне занадта мяккім. Цяпер справа будзе разглядацца ў абласной інстанцыі.

*www.sb.by*




Нарэшце ў Глыбокае прыйшла сапраўдная зіма. *Фота Змітра Лупача.*

# Запрашаем на жаніцьбу Цярэшкі!

**17 студзеня а 17-й гадзіне ў гарадскім Цэнтры культуры адбудзецца абрад – жаніцьба Цярэшкі. Усіх запрашаем! Можаце і самі прыняць удзел!**



Жаніцьба Цярэшкі ў Віцебску. *Фота Сяржука Серабро, ННВ.*

Энерганагляд папярэджвае:

# Зіма ў разгары

**Вось і наступіў новы год. У гэтым годзе, у адрозненне ад мінулага года, зіма паказвае сябе дастаткова нізкімі тэмпературамі вонкавага паветра. Што ж рабіць для забеспячэння надзейнай працы цеплаўстановак і цеплавых сетак ва ўмовах нізкіх тэмператур вонкавага паветра?**

**■ А. Рацьковіч,** *дзяржаўны інспектар па энергетычным наглядзе*

Ва ўсіх арганізацыях (жыллё, адукацыя, ахова здароўя і т.д.) павінны быцьстворанызаператыўныя групы для прыняцця неабходных мер па забеспячэнню належнай працы электра-, цеплаўстановак і інжынерных сетак, створаны неабходны запас матэрыялаў, абсталявання і запасных частак. Абслугоўваючаму персаналу неабходна правесці інструктажы па дзеяннях ва ўмовах нізкіх тэмператур вонкавага паветра.

Начальнікамі участкаў і майстрамі УП ЖКГ павінен праводзіцца пастаянны кантроль за цеплазабеспячэннем падведамасных дамоў і выкананнем тэмпературнага рэжыму ў жылым фондзе. У гэты перыяд неабходна ўзмацніць працу аварыйна-дыспетчарскай службы і персаналу УП ЖКГ Глыбоцкага раёна. Павінна весціся пастаянная работа па рэгуляванні падачы цяпла ў жылыя дамы, дзіцячыя дашкольныя ўстановы, школы, установы аховы здароўя.

Жыхарам жа шматкватэрных дамоў і персаналам дзіцячых дашкольных устаноў, школ, устаноў аховы здароўя павінны праводзіцца мерапрыемствы па ўцяпленні аконных і дзвярных праёмаў будынкаў і збудаванняў. Недапушчальна варварскае стаўленне да работ, што праводзяцца камунальнымі службамі. Цягам ацяпляльнага перыяду неаднаразова выбіваюцца рамы з аконных праёмаў у падвальных памяшканнях, а таксама выламваюць уваходныя дзверы ў падвальныя памяшканні і пад'езды. Будзьце ўзаемаветлівыя.

Менавіта цяпер у перыяд рэзкага зніжэння тэмпературы вонкавага паветра «вылазяць на паверхню» хібы і недахопы ў падрыхтоўцы да цяперашняга ацяпляльнага сезона, таму ўжо цяпер неабходна пачынаць складаць мерапрыемствы па падрыхтоўцы да новага ацяпляльнага сезону з улікам тых прарэхаў, якія выявіліся ў гэтым ацяпляльным сезоне.

# Аматарам актыўнага адпачынку на прыродзе




**Шмат хто з нас любіць папаляваць, сабраць ягад і грыбоў ці проста адпачыць на ўлонні прыроды, таму не варта грэбаваць элементарнымі правіламі арыентавання на мясцовасці.**

■ **Валерый Катовіч,** *дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай іспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету*

Арыентавацца на мясцовасці – значыць правільна вызначыць бакі гарызонту. У глыбокай старажытнасці арыентаванне зводзілася да пошуку кірунку на ўсход – у бок узыходу Сонца. Пазней, галоўным чынам пасля вынаходніцтва больш за дзве тысячы гадоў таму ў Кітаі компаса, асноўным напрамкам у арыентаванні стаў поўнач – поўдзень. Ужо ў 2000 г. да н. э. ў Егіпце з'явіліся маляваныя карты, а фінікійцы выкарыстоўвалі своеасаблівыя марскія карты, якія змяшчаюць дадзеныя аб ветрах, размяшчэнні зорак і марскіх плынях. У XV–XVI стст. многія караблі ўжо былі абсталяваныя компасам, а еўрапейская каланізацыя Амерыкі, Афрыкі і Паўднёва-Усходняй Азіі спрыяла ўдасканаленню тапаграфічных і марскіх карт.

Аднак, зарыентавацца на мясцовасці – значыць не толькі зразумець, дзе поўнач, а дзе поўдзень, трэба яшчэ вызначыць сваё месцазнаходжанне адносна навакольных прадметаў, формаў рэльефу, знайсці правільны кірунак руху і вытрымаць яго на працягу ўсяго маршруту. Арыентавацца можна па тапаграфічнай карце, аэрафотаздымках і прыборах наземнай навігацыі.

Намагнічаная стрэлка компаса размяшчаецца ўздоўж магнітнага мерыдыяна і паказвае кірунак поўнач – поўдзень. Каб вызначыць яго, трэба спачатку ўсталяваць компас у гарызантальнае становішча і разблакаваць стрэлку – аслабіць рычаг, з дапамогай якога яна замацавана. Паварочваючы компас, трэба дамагчыся, каб паўночны канец магнітнай стрэлкі апынуўся супраць нулявога дзялення лімба. У арыентаваным становішчы компаса напрамак стрэлкі на нулявое дзяленне лімба будзе кірункам на поўнач. Пасля гэтага візаваннем праз прарэз і мушку варта заўважыць які-небудзь мясцовы прадмет (арыенцір), які затым выкарыстоўваецца для ўказання на поўнач. Ведаючы яго, лёгка вызначыць і іншыя бакі гарызонту.

Пры працы з компасам трэба памятаць, што моцныя электрамагнітныя палі або блізка размешчаныя металічныя прадметы адхіляюць стрэлку ад яе правільнага становішча. Таму пры вызначэнні кірунку па компасе неабходна адыходзіць на 40-50 м ад ліній электраперадач, чыгуначнага палатна і буйных металічных прадметаў.

У выпадку адсутнасці компаса зарыентавацца на мясцовасці дапамогуць і прыродныя арыенціры. Гадавыя кольцы на пнях дрэў шырэй з паўднёвага боку. Мурашнікі амаль заўсёды знаходзяцца з паўднёвых бакоў дрэў, а паўднёвы схіл мурашнікаў больш спадзісты, чым паўночны. Кара большасці дрэў на паўночным баку больш шурпатая і грубая, а на паўднёвым танчэйная і больш эластычная (у бярозы святлейшая). На дрэвах хвойных парод смала багацей назапашваецца з паўднёвага боку. З паўночнага боку дрэвы, камяні, чарапічныя і шыферныя дахі часцей пакрываюцца лішайнікамі і грыбкамі, а ўвесну снег хутчэй растае на схілах, звернутых на поўдзень. Цень апоўдні накіравана на поўнач. Галіны асобна растучых дрэў з паўночнага боку карацей, чым з паўднёвага.

Да таго ж трэба ведаць, што алтары і капліцы праваслаўных цэркваў звернутыя на ўсход, а алтары каталіцкіх цэркваў – на захад, будыйскія пагады звернутыя фасадамі на поўдзень. На купалах перакладзіны крыжоў размешчаны па кірунку поўнач – поўдзень, прыпадняты канец перакладзіны «глядзіць» на поўнач.



Сонца рухаецца па небасхіле з усходу на захад па ходзе гадзіннікавай стрэлкі, з вуглавой хуткасцю ў сярэднім 15° у гадзіну, апоўдні яно знаходзіцца на кірунку на поўдзень. Ведаючы час, можна вызначыць вугал, на які Сонца не дайшло да кропкі поўдня або перайшло яе. У першай палове дня поўдзень будзе справа ад Сонца, а ў другой палове – злева.

У Паўночным паўшар'і ў ясную ноч кірунак на поўнач вызначаецца па Палярнай зорцы. Каб знайсці яе на небасхіле, трэба спачатку адшукаць сузор'е Вялікай Мядзведзіцы (вялікі коўш з сямі яркіх зорак). Праз дзве крайнія зоркі каўша трэба ўмоўна правесці прамую лінію і пяць разоў адкласці на ёй адрэзак, роўны адлегласці паміж гэтымі зоркамі. Канец апошняга адрэзка пакажа становішча Палярнай зоркі, якая знаходзіцца ў сузор'і Малой Мядзведзіцы. Палярная зорка амаль заўсёды знаходзіцца на поўначы (яе адхіленне ад кірунку на поўнач не перавышае 2°). У поўню Месяц на небасхіле размяшчаецца супраць Сонца, таму на паўднёвым кірунку ён знаходзіцца ў поўнач.

Спадзяюся, узгаданае дапаможа Вам пазбегнуць непрадбачаных сітуацый падчас палявання, збору ягад, грыбоў або проста прагулкі на свежым паветры.

***

**Аб усіх парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства вы можаце паведаміць па тэлефоне даверу 8 (02156) 28670 або на мабільныя тэлефоны: МТС 8972302, МТС 8905528, МТС 2494549, МТС 6456678.**




# Узровень пажарнай бяспекі праверaных аб'ектаў

**У снежні месяцы інспекцыяй нагляду і прафілактыкі Глыбоцкага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях праведзены праверкі ўзроўню пажарнай бяспекі суб'ектаў. За выяўленыя парушэнні правілаў пажарнай бяспекі на гэтых суб'ектах да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнуты іх кіраўнікі і службовыя асобы.**

Так, пры праверцы **ААТ «Сельцы»** высветлілася, што:

■ будынкі і збудаванні не забяспечаны першаснымі сродкамі пажаратушэння згодна нормы Палажэння, спраўнай аховай ад маланак;

■ у жывёлагадоўчых будынках не ўжываецца групавы спосаб прывязі жывёлы, які забяспечвае іх хуткае вызваленне пры пажары;

■ адсутнічае інфармацыйны стэнд аб пажарнай бяспецы і бяспекі жыццядзейнасці;

■ адміністрацыйны будынак не абсталяваны аўтаматычнай пажарнай сігналізацыяй, адсутнічае план эвакуацыі;

■ работнікі не забяспечаны самавыратавальнікамі;

адсутнічае журнал для кантролю за станам першасных сродкаў пажаратушэння;

■ не арганізавана сістэма навучання работнікаў патрабаванням пажарнай бяспекі;

■ драўляныя будаўнічыя канструкцыі паддахавых памяшканняў не апрацаваны вогнеахоўным складам;

■ на вонкавым баку вытворчых і складскіх памяшканняў адсутнічаюць паказальнікі па выбуховапажарнай і пажарнай небяспецы;

■ пажарныя вадаёмы, воданапорныя вежы не адпавядаюць патрабаванням.

**Гасцявы комплекс «Ольгас»:**

■ эксплуатуецца без здачы ў эксплуатацыю пасля рэканструкцыі;

■ дзверы, якія падзяляюць запасны эвакуацыйны выхад і калідор не абсталяваны прыладай для самазакрыцця;

■ будынак не ў поўным аб'ёме забяспечаны знакамі пажарнай бяспекі;

■ драўляныя будаўнічыя канструкцыі паддахавага памяшкання не апрацаваны вогнеахоўным складам.

**Крама «Віцязь»:**

■ асоба, адказная за пажарную бяспеку, не прайшла падрыхтоўку па праграме пажарна-тэхнічнага мінімуму;

■ адсутнічаюць самавыратавальнікі; не зроблены замер супраціўлення ізаляцыі правадоў і кабеляў;

■ адсутнічаюць знакі пажарнай бяспекі;

■ аўтаматычная пажарная сігналізацыя знаходзіцца ў няспраўным стане;

■ ацяпляльны прыбор у гандлёвай зале ўсталяваны з парушэннямі патрабаванняў інструкцыі па мантажы.



Акрамятаго, праводзіліся праверкі ступені выканання папярэдніх прадпісанняў органаў дзяржаўнага пажарнага нагляду, а менавіта:

**філіял «Галубічы» ААТ «Глыбоцкі мясакамбінат»** – прадпісаныя мерапрыемствы органаў дзяржаўнага пажарнага нагляду выканаканы не ў поўным аб'ёме;

**ААТ «Глыбоцкі малочна-кансервавы камбінат»** – усе раней прадпісаныя мерапрыемствы былі выканаы ў поўным аб'ёме.

*Інспекцыя нагляду і прафілактыкі Глыбоцкага РАНС*

## МНС інфармуе

**на 12.01.2016 года:**

**Віцебская вобласць:**

Пажараў – 46;

Гібель людзей – 10, з іх 0 дзяцей;

**Глыбоцкі раён:**

Пажараў – 1;

Гібель людзей – 2, з іх дзяцей няма;

Урон –591,1 млн. руб.

За 2015 год па раёне адбылося 36 пажараў, на якіх загінула 3 чалавекі.

## Рэжым працы пунктаў пропуску «Мальдзевічы» і «Лынтупы» зменіцца з 11 студзеня

**Рэжым працы пунктаў спрошчанага пропуску «Мальдзевічы» і «Лынтупы» зменіцца з 11 студзеня, паведамілі ў прэс-цэнтры Дзяржпагранкамітэта Беларусі.**

«Пункт спрошчанага пропуску «Мальдзевічы» цяпер будзе працаваць з 9.00 да 20.00 па панядзелках, аўторках, серадах і чацвяргах. Перасекчы мяжу ў «Лынтупах» будзе магчыма з 9.00 да 20.00 па пятніцах, суботах, нядзелях», – растлумачылі ў памежным ведамстве Беларусі. Рэжым працы паказаны па мінскім часе.

У камітэце нагадалі, што праз гэтыя пункты прапускаюцца грамадзяне, якія пастаянна пражываюць на памежнай тэрыторыі. Пры сабе неабходна мець пашпарт з візай сумежнай дзяржавы. Дадатковую інфармацыю можна атрымаць у Смаргонскай пагранічнай групе па тэлефоне 8-01592-93301 кругласутачна або 8-01592-30080 ў працоўны час.

*БелТА*

## З 12 студзеня падаражэе праезд у міжгародных аўтобусах

**З 12 студзеня 2016 года ў Беларусі праезд у міжгародных аўтобусах падаражэе ў сярэднім на 10%. Пра гэта 6 студзеня паведамілі ў "Мінсктрансе".**

З гэтага аўторка адзін кіламетр паездкі на звычайных маршрутах у аўтобусах агульнага тыпу павялічыцца з 538 да 590 рублёў, на аўтобусах з мяккімі адкіднымі сядушкамі – з 556 да 610 рублёў. За кіламетр праезду на хуткасных маршрутах у аўтобусах агульнага тыпу трэба будзе заплаціць 768 рублёў, на аўтобусах з мяккімі адкіднымі сядушкамі - 794 рублі.

Тарыф на дадатковых рэйсах падаражэе да 796 рублёў у аўтобусах агульнага тыпу і да 824 рублі – у аўтобусах з мяккімі адкіднымі сядушкамі. На экспрэсных маршрутах 886 рублёў у аўтобусах агульнага тыпу і 916 – у аўтобусах з мяккімі адкіднымі сядушкамі. Дзеці ва ўзросце ад 5 да 10 гадоў карыстаюцца зніжкай у 50% на праезд у міжгародным транспарце.

*finance.tut.by*

## У Полацкім раёне ў старой жанчыны скралі казу

**У Полацкім раёне ў пенсіянеркі скралі казу, паведамілі ў прэсслужбе УУС Віцебскага аблвыканкама.**

Жанчына 1937 года нараджэння звярнулася да праваахоўнікаў позна ўвечары 4 студзеня і паведаміла, што каля 21 гадзіны невядомы з яе незачыненага хлява скраў казу. Шкоду яна ацаніла ў 4 млн. рублёў

Супрацоўнікі РАУС ўсталявалі, што злачынства здзейсніў мясцовы жыхар – непрацуючы мужчына 1986 года нараджэння. Міжраённым аддзелам Следчага камітэта заведзена крымінальная справа па ч.1 арт.205 КК.

*Прэс-служба УУС.*

## Працаўнікі 141 прадпрыемства сустрэлі Новы год без зарплаты

**Працаўнікі 141 прадпрыемства па ўсёй Беларусі сустрэлі Новы год без зарплаты. Пра гэта сведчаць дадзеныя Нацыянальнага статыстычнага камітэта, апублікаваныя надоечы. Асноўная частка даўжнікоў даводзіцца на аграпрамысловы комплекс – 127 прадпрыемстваў.**

У Віцебскай вобласці налічваецца больш за ўсё арганізацый-даўжнікоў (117), якія назапасілі абавязкі па зарплаце на 42,4 мільярда рублёў. У Мінскай вобласці – 20 кампаній, якія завінаваціліся сваім працаўнікам 5,3 мільярда рублёў, у Мінску – 3 на 11,4 мільярда, у Гомельскай вобласці – 1 на 1,4 мільярда. У астатніх рэгіёнах своечасова працаўнікі розных прадпрыемстваў атрымалі зарплату своечасова.

Па стане на 1 студзеня 2016 года агульная сума пратэрмінаванай запазычанасці па заработнай плаце складала 60,5 мільярда рублёў. За месяц яна істотна скарацілася, паколькі 1 снежня абавязкі перад працаўнікамі мелі 405 арганізацый на суму больш 240 мільярдаў рублёў.

*telegraf.by*

## Электронную чаргу ў 15 аўтадарожных пунктах пропуску праз дзяржмяжу Беларусі ўвядуць да канца 2018 года

**Электронную чаргу планууецца ўвесці ў 15 аўтадарожных пунктах пропуску праз дзяржмяжу Беларусі да канца 2018 года. Пра гэта гаворыцца ў дадатку да пастановы Савета міністраў №1130 ад 31 снежня 2015 года.**

Як паведамляе прэсслужба ўрада, раней за ўсё – да 29 лютага 2016 года – электронную чаргу планууецца ўвесці ў пункце "Брэст" на мяжы з Польшчай, а да 31 снежня 2016 года – у "Новай Рудні" на беларуска-ўкраінскай мяжы. Да 31 снежня 2017 года электронная чарга запрацуе ў пунктах "Дамачава", "Грыгараўшчына", "Новая Гута", "Беняконі", "Бераставіца", "Брузгі", "Катлоўка" і "Прывалка"; да 31 снежня 2018 года – "Казловічы", "Макраны" – "Пясчатка", "Урбаны", "Каменны Лог".

Браніраванне ў сістэме электроннай чаргі месца для грузавых аўтамабіляў, аўтобусаў, цягачоў і трактароў абыдзецца ў адну базавую велічыню, якая цяпер складае 210 тыс. рублёў. Такая ж цана ўстаноўлена для іншых транспартных сродкаў у перадвыхадныя, перадсвяточныя і выхадныя дні, дзяржаўныя святы або святочныя дні, устаноўленыя і аб'яўленыя ў адпаведнасці з заканадаўствам непрацоўнымі. Узвычайныя дні для гэтай катэгорыі плата складзе 0,8 базавай. Пры гэтым плата спаганяецца за кожны транспартны сродак, месца для якога браніруе адна юрыдычная або фізічная асоба.

Па-за чаргой у пунктах, дзе ўвядуць электронную сістэму, будуць прапускацца фізасобы, у якіх ёсць дакументы аб смерці або цяжкім захворванні блізкіх сваякоў. Таксама ад ўезду ў зону чакання вызваляюцца дзяржаўныя, урадавыя і парламенцкія дэлегацыі Рэспублікі Беларусь; спецыяльныя транспартныя сродкі медыцынскай дапамогі, пажарнай аховы, аварыйна-ратавальных і іншых службаў і шэраг іншых катэгорый.

*Аляксей Арэшка, БелаПАН.*

## Спецыялісты раяць карміць качак у халады аўсянкай і гароднінай, а не хлебам

**Падкормліваць лебедзяў і качак у халады можна аўсянай кашай і гароднінай, паведамілі ў Мінскім гарадскім камітэце прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.**

Спецыялісты рэкамендуюць даваць корм вадаплаўным птушкам пры тэмпературы паветра ніжэй за 15 градусаў. Пры гэтым яны падкрэсліваюць, што для пачастунку птушак зусім не падыходзяць хлеб і батон. Адказ просты: стрававальная сістэма лебедзяў і качак да такой ежы не прыстасаваная.

У натуральных умовах лебедзі сілкуюцца раслінамі, дробнымі рачкамі і рознымі лічынкамі. Качкі ласуюцца насеннем раслін, малюскамі, актыўным глеем. Усё гэта яны могуць самастойна адшукаць і зімой. Дапамога чалавека ім патрэбная толькі ў экстрэмальных сітуацыях,



калі вадаёмы замярзаюць, і ў птушак застаецца для плавання зусім малюсенькая палонка. Карміць іх у такіх выпадках рэкамендуецца сырой або варанай гароднінай, аўсянай кашай, аўсом, ячменем, пшаніцай.

А вось хлебнымі крошкамі ў халады можна пачаставаць сухапутных птушак. Усе гэтыя птушкі з задавальненнем наведваюць кармушкі, але ў адрозненне ад вадаплаўных не трапляюць у поўную залежнасць ад прыкормкі. Яны з задавальненнем пакаштуюць семак, арэхаў, кашы, а таксама несалёнага сала.

*БелТА*

## Глыбачане! Падцягвайцеся 22 студзеня на СМС-галасаванне!




■ **Уладзімір Скрабатун**

Неўзабаве, 22 студзеня, адбудзецца адборачны тур удзельнікаў на атрыманне права прадставіць нашу краіну на прэстыжным конкурсе – Еўрабачанне-2016.

Для глыбачан асаблівую цікавасць уяўляе гурт **"NAVI"**. Яго стваральнік – Арцём Лук'яненка, выпускнік Глыбоцкай СШ№3.

Гурт **"NAVI"**, які выступіць пад №6, адзіны, хто прадставіць песню на беларускай мове, усе іншыя – на англійскай.

Фінальнае шоў адбудзецца ў фармаце тэлевізійнага канцэрта ў наўпроставым эфіры тэлеканалаў «Беларусь 1» і «Беларусь 24».

Нагадаем, гурт **"NAVI"** за два гады творчага саюза паспеў выпусціць альбом, а таксама атрымаць узнагароду як «Адкрыццё года» ў Нацыянальнай музычнай прэміі ў 2013 годзе.

**А вось і наша песня, з якой мы можам прадставіць Беларусь на конкурсе Еўрабачанне-2016!**

## Прадам катлы, сантэхабсталяванне:

**Катлы ацяплення, новыя, «Камфорты», «Люксы», нядорага. Магчымы продаж у доўг або крэдыт. КСТ-12,5, «Камфорт-Плюс» на дровах, апілках, брыкеце. Дастаўка.** УНН 391054834 выд. 13.08.2014г Глыбоцкім РВК. **Т.:8029-286-65-32 (мтс), 8029-892-87-21 (мтс), 8029-714-00-74(мтс)+**

Кацёл ацяпляльны на дровах, новы. Пасв. 391050456 ад 07.03.2008г. выд. Глыбоцкім РВК. Т.:8029-286-65-32(мтс)+

Кацёл у лазню, 5,7млн.руб Т.:8029-286-65-32(мтс)+

Кацёл ацяпляльны для гаража, склада, цяпліцы на адпрацаваным масле. УНН 391054834 выд. 13.08.2014г Глыбоцкім РВК. Т.:8-029-892-87-21(мтс), 8-029-286-65-32(мтс)+

## Прадам будматэрыялы:

Кольцы б\у, бетонныя для калодзежаў і каналізацый. Пліты перакрыцця 2,5-3-метровыя б\у. Цэглу сілікатную палутарную б\у. Т.:8029-892-87-21 (мтс)+

Цэмент М 500 ДО, 39000руб\мяшок. Блокі. УНП 390431716. Т.: 810-04-70(мтс)+5

Кольцы б\у бетонныя для калодзежаў і каналізацый. Т.: 8-029-286-65-32+

Арматура, Д=6мм. Цэгла сілікатная палутарная, б\у. Пліты перакрыцця 2,5 і 3-метровыя б\у. Шыфер новы, шыфер б\у. . Катлы ацяпляльныя на дровах. УНН 391054834 выд. 13.08.2014г Глыбоцкім РВК. Т.:8029-286-65-32 (мтс)+

Ламінат, сайдзінг, кускі лінолiума, **распродаж** астаткаў. УНН 391053348, Пасв. №391053348 ад 19.06.2009г. М-н «Бегемот», вул. Леніна, 87+

Кабінкі душавыя, боксы, **распродаж** астаткаў, нядорага. УНН 391053348, Пасв. №391053348 ад 19.06.2009г. М-н «Бегемот», вул. Леніна, 87+

Лес кругляк. УНН 391054834 выд. 13.08.2014г. Глыбоцкім РВК. Т.:8029-892-87-21(мтс)+

## Куплю будматэрыялы:

Цэмент у мяшках. Т.: 8-029-892-87-21 (мтс), 8-029-286-65-32(мтс)+

Двутаўру, таўру,вугалок, швелер. Т.: 8-029-892-87-21 (мтс)+

## Прадам тэлефоны:

Nokia-6700 C, выдатны стан,70 у.а. Т.: 816-09-00(мтс)+

## Бытавая тэхніка і газавае абсталяванне на продаж:

Халадзільнік б\у, 570тыс.руб. Т.: 8-029-892-87-21 (мтс)+

Маразільнік б\у, 770тыс.руб. Т.: 8-029-286-65-32 (мтс)+

Параачысціцель «Кархер», новы, прафесійны, для інтэнсіўнай чысткі дываноў, канапаў, салонаў аўто, кафеля, газавых пліт, сантэхнікі, 1,770млн.руб. Т.:8-029-286-65-32 (мтс)+

Бойлер «Арыстон» на 30л, новы. Катлы ацяпляльныя на дровах. УНН 391054834 ад 13.08.14г. Т.: 8-029-286-65-32 (мтс)+

Абагравальнік газавы керамічны «Майстар-450».Т.:8029-714-44-65 (мтс)

## Прадам еміну:

**Бульбу дробную з дастаўкай,ёсць і вялікая. Т.:8029-514-21-76 (мтс)+6**

Бульбу вялікую. Т.: 891-08-45(мтс)2

Бульбу дробную, ад 40кг да 1т. Т.: 8-029-774-88-29(мтс)

Бульбу з дастаўкай. Т.: 894-33-17

Яблыкі, грушы дамашнія. Т.:8-029-714-44-65(мтс)

Жыўнасць на мяса. Тэл. 8-029-270-93-98

Жыўнасць каля 100кг, 65000/кг. Тэл. 8-029-842-64-62

Жыўнасць на мяса. Тэл. 4-37-24, 8-029-897-51-95, 8-029-365-55-46

Жыўнасць на мяса, па 60000 за 1 кг. Тэл. 8-033-399-94-24

Жыўнасць па 60000 кг. Тэл. 3-35-78, 8-033 646-08-56

Жыўнасць на мяса. Тэл. 8-033-695-06-65

Жыўнасць на мяса. Тэл. 3-73-55, 8-029 680-19-95

Жыўнасць на мяса. Тэл. 8-029 701-81-73

## Куплю еміну:

Бульбу дробную. Т.: 336-38-36(мтс)

## Прадам жывёлу, рыбак:

Маладога козліка на племя або на мяса. Т.: 817-82-16(мтс), 3-18-26+

Дзве казы на выбар. Т.: 3-28-08, 814-47-05(мтс)

Жыўнасць, 4 месяцы. Тэл. 8-029-597-17-45

Жыўнасць. Тэл. 8-029-239-36-50, 8-033-317-76-99

Жыўнасць. Тэл. 8-029-821-94-58 Шаркоўшчына

Жыўнасць. Тэл. 8-029 899-82-20, 8-02156 3-13-21

Жыўнасць. Тэл. 8-029 816-74-38

Жыўнасць, дастаўка. Тэл. 8-029-219-90-50

Жыўнасць, коз. Тэл. 3-35-78, 8-033 646-08-56

Авечак на племя. Тэл. 8-029 857-54-20 Шаркоўшчына

Жыўнасць (7 тыдняў), з дастаўкай. Тэл. 8-029 719-16-77

Жыўнасць, прышчэпленыя. Тэл. 3-17-84, 8-029 355-10-64

Цяля (бычка) ад каровы, для далейшай гадоўлі. Т.: 832-67-65(мтс), 815-07-62(мтс)

## Куплю жывёлу:

Куплю быка, карову, цяля. Тэл. 8-033 657-19-48

Куплю карову, быка, каня. Тэл. 8-029 897-54-76

Куплю карову, быка, каня. Тэл. 8-029 597-59-08

Куплю карову, быка, каня. Тэл. 8-029 257-18-59

Куплю быка, каня, карову. Тэл. 8-029-217-85-77

## Аддам:

Дару кацяня ў добрыя рукі. Тэл. 8-033 612-55-99

## Прадам тавары для дзяцей:

Каляску салатавага колеру, каляску колер кавы з малаком, усё б/у. Тэл. 8-029 512-46-55

## Прадам адзенне, абутак:

Зімовыя паліто "Элема", каўнер фіялетавы пясец, бардовага колеру кажух, усё р 58. Тэл. 8-033-679-10-91

Шапку «норка», мужчынскага пакрою, п-р 57-58, 700тыс.руб. Берэт з каракуля, п-р 58, 400тыс.руб. Куртку на двайным сінцепоне, п-р 54, 600тыс.руб. Торг. Т.: 8-029-623-05-56(в)

## Прадам паліва:

**Прычэп дроў з дастаўкай(альха-бяроза). Т.: 514-21-76(мтс)+2**

Дровы, абрэзкі, нядорага. Кацёл ацяпляльны на дровах. УНН391054834 выд. 13.08.2014г Глыбоцкім РВК.Т.: 8-029-286-65-32(мтс)+

Дровы, сечаныя, рэзаныя. Тэл. 8-029-517-36-86

## Прадам зерне:

Ячмень. Т.:8-029-774-88-29(мтс)

## Куплю сена:

Куплю сена. Тэл. 8-029-213-84-25

## Прадам тавары для здароўя:

**Бабровую струю** - эфектыўна ўзнаўляе патэнцыю, амалажвае,- садзейнічае пахудзенню Т: 8029-286-65-32(мтс)+

**Жывая і мёртвая вада** вылечвае многія хваробы. Аб карысці жывой і мёртвай вады самастойна знаёмцеся ў інтэрнэце. па пытаннях заказу і пакупкі прыбора для вытворчасці жывой і мёртвай вады тэлефануйце 8-029-892-87-21(мтс) + у падарунак кніга «Лячэнне жывой і мёртвай вадой» Г.Д. Лысенка. Вытв. РБ. Ліцэнзія. Афіцыйны сертыфікат МінРБ. УНН 391054834 выд.13.08.2014г Глыбоцкім РВК Т.:8029-892-87-21(мтс)+

Канькі фігурныя б\у, у добрым стане, п-р 35. Т.: 2-15-65

Канькі, п-р 34-35, у добрым стане. Т.: 8-029-517-46-14(мтс)+

## Куплю калекцыі:

Старыя манеты, узнагароды і іншае. Т.: 757-37-70+

Старыя манеты, значкі, фотаапараты, падстаканнікі, фарфоравыя фігуркі.Т.8029-510-43-80

Савецкія і старыя навагоднія цацкі. Тэл. 8-033-336-76-96

## Здам:

Здам будаўнічыя рыштаванні (леса) ў арэнду, 6х6=550тыс.руб\за 3 дні. УНН391054834 выд. 13.08.2014г Глыбоцкім РВК. Т: 8029-286-65-32 (мтс), 8029-892-87-21 (мтс)+

## Прадам эл\абсталяванне:

Кампрэсар прафесійны на 380В, 2,8млн.руб. Т.:8029-892-87-21(мтс)+

Апарат зварачны генератарнага тыпу (прывад ад эл\рухавіка) 380В,5,7млн. руб. Т.:8029-120-82-52(в)+

Трохфазны эл\рухавік. Т.: 8-029-892-87-21 (мтс)+

Станок дрэваапрацоўчы "Лучоса". Тэл. 8-033-646-27-33

## Прадам іншае:

Жорны (камні) для ўпрыгожання двароў, фундаментаў. Т.: 8-029-892-87-21 (мтс)+

Бочка пад паліва на 200л, 250тыс.руб. Т: 8-029-28665-32 (мтс)+

Кацёл ацяпляльны на дровах, новы. Пасв. 391050456 ад 07.03.2008г. выд. Глыбоцкім РВК. Т.: 8-029-286-65-32 (мтс)+

Кухню новую. Пасв. 391050456 ад 07.03.2008г. выд. Глыбоцкім РВК. Т.: 8-029-892-87-21 (мтс)+

## Куплю іншае:

Бочку 6-8 кубоў, пад каналізацыю. Т: 8-029-286-65-32(мтс)+

Пілу прафесійную «Шціль», можна б\у. Т.:8-029-892-87-21(мтс)+

Бочку на колах да трактара. Т.: 8-029-714-54-45(мтс)

## Пасажырскія перавозкі:

**У Мінск і з Мінска**. Хутка,зручна! ІП Шабан В.В. Ліц.Мінтранспарта№3-32415ад16.12.2012. да 16.12.2022. Т.:8033-646-21-99(МТС), 8029-190-21-99(В)+11

**Адвязу людзей у Дыягнастычны цэнтр**. ІП Шабан В.В. Ліц. Мінтранспарта №3-32415 ад16.12. 2012 да 16.12.2022г. Т.:8033-646-21-99 (МТС), 8-0291902199(В)+11

## Грузаперавозкі:

Грузаперавозкі па РБ: МАЗ, тэнт 40 кубоў, 10т; Рэно з адкрытым паўпрычэпам, 13,5м, 20т; УРАЛ-лесавоз з маніпулятарам; ФВ мікрааўтобус, ізатэрма, 14 кубоў, 1,5т. УНН 391054834 выд. 13.08.2014г Глыбоцкім РВК. Т.:8029-286-65-32 (мтс), 8029-892-87-21(мтс)+

Грузаперавозкі попутныя, зборныя з Глыбокага ў Мінск, з Мінска ў Глыбокае, любой вагі і аб'ёму (ад 1кг да 20т). УНН 391054834 выд. 13.08.2014г Глыбоцкім РВК.Т.:8029-286-65-32 (мтс),8029-892-87-21(мтс)+

## Паслугі:

Паслугі экскаватара-пагрузчыка, усе віды земляных работ: траншэі, сажалкі і інш. Наяўны і безнаяўны разлік.УНН391531670. Т.: 8-033-699-50-99 (мтс), 714-44-99+3

Земляныя работы: МАЗ, Амкадор – пагрузка, перавозка і перасоўванне грунта. УНП 591808413. Тэл.: 8(029) 774-70-60+4

Адкачаю каналізацыю. УНП 390271248. Т.:8029-713-36-35+7

Паслугі прычэпа: вываз будаўнічага смецця, прывязу гравій, пясок і многае іншае.УНП 390271248. Т.: 8-029-713-36-35+7

Пашыў штор, цюляў, ламбрыкенаў.УНП300336676. Т.: 8-029-718-22-89, 2-60-60,8-029-872-57-73 (Алена)

Устройства дахаў і фасадаў, аддзелачныя работы, гіпсакардон, плітка, ламінат, падыманне дамоў. Заключаем дамовы. Дапамога пры пакупцы і дастаўцы матэрыялаў. УНП 391075622. Т.:8029-717-29-41 (мтс), 8044-747-15-94(в)+1

Вырашылі купіць аўтамабіль і сумняваецеся, біты ён ці не біты? Вызначу электронным таўшчыняметрам: фарбаваны, не фарбаваны або падфарбаваны аўтамабіль! УНН 391054834 выд. 13.08.2014г Глыбоцкім РВК. Т.:8029-120-82-52(в)+

Прыганю аўто пад заказ з Расіі, Літвы. Праверу электронным таўшчыняметрам: біты\не біты, фарбаваны\не фарбаваны\падфарбаваны. УНН 391054834 выд. 13.08.2014г Глыбоцкім РВК. Т.: 8-029-120-82-52(в)+

**Паслуга «Дамашні майстар»: 100 работ па доме і офісу**.***Эл\-мантажныя работы***: мантаж і замена свяцільнікаў, лічыльнікаў эл\энергіі, аўтаматычных выключальнікаў, эл\кабеля, разетак, выключальнікаў, эл\з-ванкоў; выяўленне і ліквідаванне няспраўнасцяў эл\праводкі. ***Сантэхнічныя работы***: замена і мантаж лічыльнікаў вады, труб, змяшальнікаў, кранаў, унітазаў, умывальнікаў, душавых кабін; Мантаж труб з поліпрапілена для ацяплення і вадаправода. ***Дробны рамонт кватэр і дамоў***: плінтусы,адкосы, рамонт балконаў, укладка ламіната, лінолiума; навешванне карцін, карнізаў, люстэрак, дываноў, кранштэйнаў пад тэлевізар, зборка мэблі,урэзка мыек, замкоў. Устаноўка і падключэнне бытавой тэхнікі. Дапамога ў выбары і дастаўцы матэрыялаў. Пастаянным кліентам зніжкі! Вопыт, якасць, выезд апаратыўна.ІП Жук В.І. УНП 391530-77 ад 18.12.2014г. Т.:8029-816-03-64, 8-029-379-77-94*

Адкачка каналізацыі. УНП 300022473. Т.: 8-029-593-82-32+7

Адкачка каналізацыі. УНП 300022473. Т.: 8-029-892-71-34+7

**Музычнае абслугоўванне, вядучы на Вашы ўрачыстасці, юбілеі.** УНП300592220 Гутар С. В. **Т. 8-033-308-96-78**

Рэстаўрацыя ваннаў, эмаль, колер на выбар. УНП 391240879 ІП Пазняк Н.Н. Тэл. 8-033-306-29-89, 8-02156-5-38-59 Глыбокае.

Выканаю аддзелачныя работы: гіпсакардон, ламінат, шпаклёўка, плітка, устаноўка дзвярэй і іншыя будаўнічыя работы. УНН339107664. Т.: 896-50-14***

## Шукаю працу:

Рамонт аўтабампераў. Т.: 892-15-85*

Устанаўлю адкосы любой складанасці. Дастаўка матэрыялаў. Устанаўлю ацяпленне, газавы кацёл, душавую кабіну, бязбашанку,ПВХ, ламінат, плітка, дзверы, сантэхніка, электрыка. Дастаўка матэрыялаў, дапамога ў выбары.Устанаўлю, адрамантую дах: шыфер, андулін. Без шкодных звычак. Т.: 595-48-68+

Жанчына шукае працу ці падзаробак. Тэл. 8-029-808-24-70

# Жарты жартамі, але...

Фотаздымак жонкі ў кашальку напамінае мне аб тым, што на яе месцы магло б быць нашмат больш грошай.

***

Мы паняцця не мелі, што сапраўдная мэта вядомай басні Крылова з’яўляецца ў тым, што здабыць вольнасць на слова можна толькі тады, калі страціш сыр.

***

У мяне часта пытаюцца: “Як табе ўдалося так хутка стаць багатым і знакамітым?” І ў гэты момант я як заўсёды прачынаюся.

***

- Алё! Гэта тэлефон ананімнага даверу?
- Так-так, Пётр Іванавіч. Расказвайце, што там у Вас.

***

- Якія тры рэчы ты любіш найбольш?
- Машыну, тэлевізар і жонку?
- Хіба ж жонка гэта рэч?
- Та-ак, ты правы, жонка не рэч... Вось машына – гэта Рэч!

***

Муж – жонцы:
- Дарагая! Я ж прасіў цябе адпрасаваць мае штаны!
- Мілы, я ж іх адпрасавала!
- Няпраўда! Сто долараў як ляжалі ў задняй кішэні, так і ляжаць да гэтага часу.

***

Абітурыент за хабар паступае на юрфак. Экзаменатар: “А скажы ты, любезны, паміж кім была руска-японская вайна?”

***

Заўтра кіну курыць, у панядзелак пачну бегаць кожную раніцу, праз тыдзень запішуся ў трэнажорную залу. А аб чым думаеш ты перад сном?

***

Баба Яга пытаецца ў Змея Гарыныча:
- Ты каго больш за ўсіх баішся?
- Здагадайся.
- Ілью Мурамца?
- Не, здаравенны, як бугай, але вельмі лянівы.
- Дабрыню Нікіціча?
- Не, сілішчы ў яго многа, але тупы, як пень.
- Тады каго ж?
- Івана – сялянскага сына. Хоць ён дурак-дураком, але калі нап’ецца самагона – паліць з ружжа куды папала, з жабамі цалуецца. Беспрыдзельшчык, пракляты!

***

Жонка мужу: “Калі ты і далей будзеш адносіцца да мяне без павагі, не будзеш заўважаць маёй любові і дабрыні, то я запішуся ў гурток па падрыхтоўцы сцерваў!” Муж падумаў, падумаў: “А што, у гэтым гуртку па гэтай спецыяльнасці не хапае выкладчыкаў?”

*Фадзей Шымуковіч,г. Дзісна*

# У Лондане пачынаецца будаўніцтва беларускай царквы

**Уніяцкую царкву Святога Кірылы Тураўскага збудуюць побач са знакамітай Бібліятэкай імя Скарыны.**

7 лютага ў Лондане адбудзецца абрад закладзінаў нарожнага каменя Царквы Святога Кірылы Тураўскага і Ўсіх Святых Заступнікаў Беларускага Народу, расказаў «Нашай Ніве» а. Сяргей Стасевіч, беларускі грэка-каталіцкі святар у Лондане.

У цырымоніі возьмуць удзел біскуп грэка-каталіцкай епархіі Святога Сямейства біскуп Глеб Ланчына і Апостальскі нунцый у Вялікай Брытаніі Антоній Меніні.

арква будуецца побач са знакамітымі беларускімі дамамі ў паўночным Лондане: Бібліятэкай імя Францішка Скарыны і Marian House. Архітэктарам выступіў лонданскі архітэктар і парафіянін беларускай грэка-каталіцкай царквы Рафаэль Цзыўай Со. Праект спалучае элементы сучаснай архітэктуры і традыцыйнай архітэктуры беларускіх храмаў.

Завяршэнне будаўніцтва царквы плануецца ўвосені гэтага году.

Беларуская грэка-каталіцкая супольнасць існуе ў Лондане ўжо амаль 70 гадоў. На яе чале стаялі такія асобы, як Чэслаў Сіповіч, першы пасля касавання Уніі беларускі грэка-каталіцкі біскуп, і а. Аляксандр Надсан, асветнік, навуковец, перакладчык, якога не стала летась. Намаганнямі беларускіх грэка-каталіцкіх святароў у Лондане была створаная Бібліятэка імя Скарыны, найбуйнейшая на сённяшні дзень беларуская бібліятэка за межамі Беларусі.



*Архітэктар беларускай царквы ў Лондане Рафаэль Цзыўай Со*

*nn.by*




# Цікавыя гістарычныя факты

На архіпелагу “Вогненная Зямля” ў Паўднёвай Амерыцы няма і не было ні аднаго вулкана! Сваю такую назву архіпелаг атрымаў ад Фернанда Магелана, які ўбачыў са свайго карабля вялікую колькасць агнёў на беразе, якія былі... вогнішчамі мясцовых індзейцаў.

***

Воіны майя скарыстоўвалі ў якасці кідальнага ўзбраення гнёзды шаршнёў. Шаршні атакавалі нападаючых, прыводзячы іх у паніку, таму што ўкусы гэтых насякомых могуць быць смяротнымі.

***

У караля адной афрыканскай дзяржавы 14 жонак і 23 дзіцяці. На цырымоніі выбару новай жонкі, з усёй краіны з’язджаюцца дзясяткі тысяч цнотніц, якія ў паўраздзетым выглядзе выконваюць для манарха рытуальны “трасніковы танец” у надзеі стаць чарговай каралевай.

***

Традыцыйная вопратка шатландскіх мужчын – кілт, можа апранацца як з нацельнай бялізнай, так і без яе. Аднак “сапраўдныя” шатландцы, асабліва салдаты, згодна традыцый, павінны апранаць кілт на голае цела. Раней у палках шатландскага войска нават рабіліся праверкі: афіцэр са спецыяльным люстэркам на ручцы заглядваў пад кілт, і ў выпадку знаходжання бялізны, тут жа перад строем аддаваў загад зняць нацельную бялізну.

## Міністэрства аховы здароўя 7 студзеня павысіла межавыя максімальныя тарыфы на паслугі па дыягностыцы, прафілактычных і абавязковых медыцынскіх аглядах грамадзян

■ Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН

**На Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале апублікаваная пастанова Міністэрства аховы здароўя Беларусі ад 23 снежня 2015 года № 128, якая выкладае ў новай рэдакцыі дадатак да пастановы міністэрства ад 3 лютага 2015 года №13 «Аб устанаўленні межавых максімальных тарыфаў на паслугі па прамянёвай, ультрагукавой, функцыянальнай і эндаскапічнай дыягностыцы», паведамляе Нацыянальны цэнтр прававой інфармацыі.**

Пастанова Міністэрства аховы здароўя ад 23 снежня 2015 года №129 змяняе дадатак да пастановы міністэрства ад 3 лютага 2015 года №15 «Аб устанаўленні межавых максімальных тарыфаў на стаматалагічныя паслугі (артадантычныя, артапедычныя і зубатэхнічныя), на паслугі па прамянёвай дыягностыцы пры аказанні стаматалагічных паслуг».

Акрамя таго, пастановай Міністэрства аховы здароўя ад 23 снежня 2015 года № 130 у новай рэдакцыі выкладзены дадатак да пастановы міністэрства ад 3 лютага 2015 года №16 «Аб устанаўленні межавых максімальных тарыфаў на паслугі па лабараторнай дыягностыцы».

Змененыя таксама межавыя максімальныя тарыфы на паслугі па прафілактычных і абавязковых медыцынскіх аглядах грамадзян і медыцынскіх аглядах стану здароўя грамадзян для атрымання медыцынскай даведкі аб стане здароўя, якая пацвярджае прыдатнасць да кіравання аўтамабілямі з ручным кіраваннем, – згодна з пастановай Міністэрства аховы здароўя ад 23 снежня 2015 года № 131 «Аб унясенні змены ў пастанову Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь ад 3 лютага 2015 года №17».

Пастановы набылі моц 7 студзеня 2016 года.

## Усміхніцеся

Сидят на берегу реки два подпитых мужика, подходит к ним третий, спрашивает:
- Ребята, где брод???
Мужики говорят ему:
- Да прямо здесь и есть.
Он, послушав их, чуть не утонул, а выбравшись на берег, с негодованием спрашивает:
- Ну как же так, вы же сказали здесь брод?!!!!!
На что они ему и отвечают:
-Честное слово, братуха!!!! Утки полчаса назад здесь по пояс прошли!.

.***

Стоит пьяный мужик на остановке в обнимку со столбом.
К нему подходит другой пьяный и спрашивает:
- Чей-то ты тут делаешь?
- Автобус жду.
- Дурень, кто ж тебя в автобус с таким торшером-то пустит?

***

Мужик приходит с тёщей в тир ДОСААФ, а инструктор ему говорит:
- Извините, но у нас со своими мишенями нельзя.

***

На лавочке возле калитки сидят и беседуют две бабки. Мимо них проходит пьяный в стельку мужик.
Одна бабка - другой:
- У Петровых каждый знает своё дело: она гонит самогон, а он его рекламирует.

***

Завели немец, англичанин и русский разговор о мясе.
Немец:
– У нас скотину убивают электрическим током, чтобы она не боялась и мясо не горчило.
Англичанин:
– А у нас ей сначала дают вкусно поесть и послушать Баха – от этого ее мясо становится вкусней.
Русский:
– А у нас... черт его знает. Приходишь в магазин, а там... кости, копыта, хари, рога. Взрывают, наверное.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Актер театра Карабаса-Барабаса | | Спутник Юпитера | | | | | | |
| Ущелье, узкий проход | | Россий-ские сигареты | | Русский компо-зитор | | Поток лучистой энергии | | Первая сура Корана |
| | | | | | | "Кубан-ские ка-заки", актриса | | Светская песня эпохи Воз-рождения |
| Мужское имя | | Трава семейства злаков | | | | | | |
| | | | | | Рыбный суп | | | |
| | Детская кукла | | Римский император | | Настоящая фамилия Ленина | | | |
| | | | | | | | Большая бочка | |
| | Родст-венник | | Металл | | | | | |
| Черный березовый гриб | Роман Ивана Тургенева | | | | | Индийское учение | Река в Таиланде, приток Пинга | |
| Столица Мальдив-ской рес-публики | | Трагедия Витторио Альфьери | | Левый приток Камы | | | | |
| | | | | Археол. культура в Румынии | | | | Река в Германии |
| Единица количест-ва инфор-мации | | Площадь, улица (старо-русское) | | | | | | |
| | | | | Большие весы для тяжелых предметов | | | | |

**Ответы на сканворд № 1**
**По горизонтали:** Группа. «Динамо». Герцог. Триал. Ива. Мор. Частное. Аксон. Янус. Апоп. Стог. Лик. Анатом. Хрен. Типи. **По вертикали:** Триер. Гаага. Убор. Перово. Меланау. Цимес. Гаршнеп. «Туча». Иксия. Оксалат. Наган. Фтор. Пити. Окоп. Ми

## Гараскоп на Новы 2016 год

**АВЕН.** У пачатку тыдня падзеі будуць развівацца ў спрыяльны для вас бок, нечакана могуць паўстаць новыя перспектывы. У сярэдзіне тыдня паспрабуйце не адмаўляць у дапамозе сябрам. У выхадныя вы можаце апынуцца ва ўладзе маркоты і дрэннага настрою. Аднак актыўны адпачынак дапаможа хутка справіцца з сумам.

**ЦЯЛЕЦ.** Нядрэнны тыдзень, калі вы максімальна выкарыстаеце яго для творчай самарэалізацыі. У першай палове тыдня важна старанна выконваць працоўныя абавязкі.Канец тыдня пажадана выкарыстоўваць для выразнага афармлення планаў і задач на бліжэйшую будучыню. Выхадныя пераважныя для такіх спраў, якія можна хутка скончыць. Будзьце ўважлівыя, нечаканая інфармацыя можа акрыліць, але і ўвесці вас у зман.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вам трэба будзе паглыбіцца ў працу, і менавіта ад яе будуць залежаць вашы далейшыя поспехі. Самае важнае - пазбягаць непатрэбнай мітусні, а таксама залішняй актыўнасці. З кантактаў з новымі людзьмі вы зможаце атрымаць выгаду. Толькі паспрабуйце кантраляваць свае эмоцыі, інакш вы можаце быць залішне запальчывыя. Зносіны з каханым чалавекам дапамогуць вам зняць напружанне. Прысвяціце больш часу дзецям.



**РАК.** Першыя дні тыдня спрыяльныя для далёкіх паездак, падарожжаў, як дзелавых, так і забаўляльных і пазнавальных. У другой палове тыдня паспрабуйце пазбягаць цеснага кантакту з начальствам, хоць не выключана, што вам давядзецца выступаць на важнай нарадзе. Канец тыдня паспрабуйце выкарыстоўваць для выпраўлення магчымых памылак. Правядзіце выхадныя ў коле сям'і.

**ЛЕЎ.** Паспрабуйце праявіць спакой і ўраўнаважанасць, не губляйце кантролю над эмоцыямі, інакш не пазбегнуць непрыемнасцяў і скандалаў. Магчыма, тыдзень будзе дастаткова напружаны з-за павелічэння аб'ёму працы. Акуратнасць і ўважлівасць - ключавыя словы цяпер. Падобна на тое, што ў вас мае адбыцца важная размова, загадзя прадумайце, што будзеце гаварыць. Праблемы, якія паўстануць у выхадныя, зможаце вырашыць толькі вы самі, не варта чакаць дапамогі з боку.

**ПАННА.** На працягу тыдня пажадана заняцца паўсядзённымі справамі. Не адкладайце рашэнне бытавых пытанняў, камунальныя плацяжы, паход па крамах. Калі ёсць магчымасць, паспрабуйце пазбягаць непрацоўных кантактаў і сутыкненняў з калегамі. Старайцеся мець зносіны толькі з важнымі і патрэбнымі людзьмі. Не хапайцеся за тысячу спраў адразу, больш выгадна выбраць нешта адно і на гэтым засяродзіць ўсе намаганні. У пагоні за праўдай паспрабуйце пазбягаць канфліктаў.

**ВАГІ.** На гэтым тыдні вы будзеце шмат мець зносін. Самы час запісацца на курсы кулінарыі або замежных моў. Зоркі кажуць, што вы можаце ўбачыць свет па-новаму і адрадзіць некаторыя старыя ідэі, злёгку падкарэктаваў іх. Сям'я і сябры, па ўсёй бачнасці, наўрад ці ацэняць па вартасці вашы дасягненні, але хутка спрыяльны эфект адчуюць ўсе вакол. Толькі давяраўшыся інтуіцыі, вы зможаце разабрацца з заблытанай сітуацыяй і прыняць адзінае правільнае рашэнне.

**СКАРПІЁН.** Вы можаце ўздыхнуць спакойна, надыходзіць паспяховы перыяд у кар'еры і ў фінансавых справах. У пачатку тыдня таксама можа паступіць цікавая і важная інфармацыя. У вас цяпер нямала аднадумцаў. Ваш аўтарытэт расце. Спраў будзе шмат, але вы можаце паспець практычна ўсё, што запланавалі, і нават больш. Любы чалавек парадуе клопатам і ўвагай.

**СТРАЛЕЦ.** Зараз цалкам можна задумаць рамонт або купіць новую кватэру. Толькі ўсе траты трэба старанна планаваць. Глядзець на жыццё на гэтым тыдні трэба максімальна прагматычна. Паспрабуйце завяршыць усе сур'ёзныя і неадкладныя справы да канца тыдня, каб не вяртацца да іх у выхадныя. Не забудзьцеся наведаць бацькоў, ці парадуйце паходам на каток дзяцей.

**КАЗЯРОГ.** Пачатак тыдня спрыяльны для паездкі, звязанай з сустрэчай са старымі сябрамі і знаёмымі. Не слухайце дарадцаў, што адгаворваюць вас ад таго выгляду адпачынку, які вы для сябе абралі - вашы планы абяцаюць быць аптымальныя. У канцы тыдня праявіце стрыманасць і такт, інакш магчымыя незваротныя наступствы для адносін на працы ці ў сям'і. На выхадныя нічога не плануйце, жывіце па вольным графіку, цяжкая фізічная праца ў гэтыя дні процілаказаная.

**ВАДАЛЕЙ.** Гэты тыдзень, а асабліва першая яго палова, можа адкрыць перад вамі разнастайнасць магчымасцяў. Аднак вам цалкам процілаказаная мітуслівасць і паспешнасць. Магчымыя новыя карысныя знаёмствы, якія даюць жаданыя перспектывы ў працы ці ў творчасці. Сярэдзіна тыдня, магчыма, адзін з самых напружаных і насычаных справамі час. У выхадныя вас могуць паспрабаваць уцягнуць у канфлікт, не прымайце нічый бок: у кожнага свая праўда.

**РЫБЫ.** Падзеі на гэтым тыдні будуць досыць супярэчлівыя, так што вам спатрэбяцца намаганні і мудрасць, каб кіраваць сітуацыяй, якая стварылася. Паспрабуйце не рабіць неабдуманых даўгоў, пазбягайце сумніўных здзелак - на гэтым тыдні верагодныя фінансавыя праблемы, ёсць небяспека буйных грашовых страт. Калі паступіць прывабная прапанова па працы, варта старанна ўзважыць усе за і супраць, перш чым яе прымаць. Не забывайце аб праблемах дзяцей. У выхадныя наведайце бацькоў.


«Вольнае Глыбокае»
**Заснавальнік:**
Прыватнае інфармацыйна-рэкламнае ўнітарнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1210, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 8 лютага 2010 г.
Газета выходзіць адзін раз на тыдзень. Аб'ём – 4 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 12.01.2016 г. у 20[00]
Наклад 1500 паасобнікаў

**Рэдактар:**
Уладзімір Іванавіч Скрабатун.
Тэлефон/факс: (02156) 2-46-14;
**E:mail: vglybokaye@tut.by**
Адрас для допісаў:
**211800, г. Глыбокае, п/с №3**
**Замова 20**

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары матэрыялаў нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор фактаў. Спасылкі на «Вольнае Глыбокае» абавязковыя.
Газета набраная і звярстаная на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае».
Надрукаваная ў друкарні ТДА «Знамение», г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14. Ліц. ЛП №02330/85 ад 23.01.2014
Юрыдычны адрас: вул. Шпітальная, 44, пак. 1, г. Глыбокае